ПРАЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Год выдання 39-ы
№ 32 (2494)
ПЯТНІЦА
8
мая 1970 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ.

Цана 8 кап.




# НІХТО НЕ ЗАБЫТЫ, НІШТО НЕ ЗАБЫТА

Мал. В. ТАРАСАВА.

Пятрусь БРОЎКА

# ДУМА АБ БЕССМЯРОТНАСЦІ



I.

Палеткі ў сонечным убранні,
Між сосен вецер, што гусляр.
Мяне хвалюе заўжды ранне,
Нібы ў ім свет свой мые твар.

Я неба звон празрыста-сіні
Над зелянінай так люблю:
І вось, я зноў у той мясціне,
Дзе ўпершыню стаў на зямлю.

Гляджу на ўзбуджаныя гоні,
Мінулых год вяду падлік —
Інакшы рытм у працы сёння,
Маторaў розных пераклік.

Машыны ўсё ўзялі на плечы,
Вядуць усюды гоман свой...
І скрозь па-за рулямі дзеці
Бацькоў, што сохлі за сахой.



Бацькоў яны пераганяюць
У кожнай справе, з кожным
днём...
А я пра тых успамінаю,
Каму мы ўдзячныя жыццём.

Пры абеліску, пры высокім
Стаю, скуль зорка ззяе нам,
Каб перадаць паклон глыбокі
Сваім таварышам-сябрам.

А зорка гэтак прамяніцца
Барвовай, чыстай раніцой,
Як паглядзіш — пад сонцам
быццам,
Наліта воінаў крывёй.

Яны ў сваёй зямлі ў спакоі
Ляжаць. Жыццё ёй аддалі:
Я з вамі гавару, героі,
Калісьці разам мы раслі.

Кастрычнік даў нам змалку
крылы,
На шлях далейшы — ускрыліў.
Радзіма нас усіх вучыла.
З нас кожны ў справе майстрам
быў.

Цяпер, пад зоркаю агністай,
Спіце, за волю змагары —
Настаўнікі і трактарысты,
І кавалі, і цесляры...

І той, хто цуд рабіў у садзе,
Хто пчаляром вядомым быў,
І проста тыя, хто ў брыгадзе
На працу розную хадзіў.

Яны загінулі ў змаганні,
Ім вецер рэквіем пяе...
Ляжаць там мсціўцы-партызаны,
Усе таварышы мае.

Ляжыць, на выбухі славутны,
З гадоў дваццатых камуніст —
Кузьма Пілюта. Даўна чутны,
Ва ўсім раёне трактарыст.

Аб ім жывуць паданні сёння,
Быў храбрым партызанам ён —
Варожых многа эшалонаў
Праз ночы скінуў пад адхон.

Усё жыццё быў працавітым,
Ды і загінуў як герой.
Ён, мост знішчаўшы, быў забіты
Па-над Ушачаю ракой.

Калі калгас распачынаўся
«Фардзона» некалі вадзіў,
Дастойна і ў вайну змагаўся...
Устань, Пілюта, паглядзі —

Прайшла фашысцкая навала,
Жыццё інакшае ідзе...
Глядзі, як твой унук удала
Па полю «Беларусь» вядзе.

Машыну гэтую прыкмеціш
Далёка ты, не толькі зблізь,
Ды гэты ж трактар, знаны ў свеце,
Сягоння выпускае Мінск.

Цяпер наш трактар проста
звычны,
Ды ўсе дзівіліся ў свой час.
Ты чуеш гул яго рытмічны,
Што далятае аж да вас.

Пры абеліску я — чырвоным —
У гонар воінаў-байцоў,
З агністым надпісам імёнаў,
Хто з грознай далі не прыйшоў,—

Стаю, панікшы галавою,
І слова роздуму бяру:
— Я з вамі гавару, героі,
Нібы з жывымі гавару.

Вы чуеце — гамоняць гоні.
Узняўся зноў наш родны дом.
Калі б усталі вы сягоння,
Сказалі б:— Добра мы жывём!

Мы ўсё, як ёсць, адбудавалі,—
Свой кут спрадвечны, баравы.
Мы так аддана працавалі,
Як працаваць хацелі вы.

Што зроблена—завем мы рунню,
Яшчэ вясновы наш паход,
І Ленін наш—ён вечна юны,
Хоць яму сёлета—сто год.

Ён заўжды, скрозь з працоўным
людам,
На бой астатні іх узняў,
Ён тут між нас і ён усюды,
Яму на свеце многа спраў.

Ён на вякі дарогі значыць,
Яго заўсёды верны шлях,
У час цяжкі баёў гарачых
На баявых ён быў сцягах.

Ён вас ніколі не забудзе,
Ён рады вас усіх вітаць —
Вы ўбілі кол фашызму ў грудзі
На смерць. Хоць ён спрабуе
ўстаць.

Дарма! Яго падолеў вызнаць
У свеце кожны ўжо народ.
Прайшла мяжа сацыялізма —
Удаль на захад і на ўсход.

Хоць шмат яшчэ брахні атрутнай
На нас спрабуюць выліваць,
Ды пене іх бурдова-бруднай
Магутнай плыні не стрымаць.

Мы ж моц сваю яшчэ патроім,
Ідзэй жа з намі—маладосць!
Я з вамі гавару, героі,
Што мы на варце ўсе, як ёсць!

II.

Паўдзён. Я зноў пры абеліску,
Бо сэрца прывяло да вас —
Да вас, мне родных, шчырых,
блізкіх
Звяртаюся. Мне чуць адказ.

Не скончыў з вамі я гаворкі,
Калі прыходзіў раніцой.
Цяпер паўдзён. Над вамі зорка
Здаецца ярка-залатой.

Яна з дзяцінства сустракае,
Пасля вядзе ў далёкі шлях —
Гарэла некалі такая
У вас, між боек, на грудзях.

А вось цяпер яе найболей
Людзям за працу выдаюць...
Паўдзён ужо. Чутно, як з поля
Усе на полудзень ідуць.

Каго вязуць дадому МАЗы,
Чакае іх жаданы дом.
Другім прывозяць, што ўсе разам
Палуднуюць сваім кружком.

А што ёсць лепш за круг
сяброўскі,
Які прысядзе адпачыць...
А я гляджу—Ягор Макоўскі,
Ён паміж іх павінен быць.

Жартаўніком жа быў бясконцым,
Казалі:—Ну й хлапец — арол!..
Аб'ехаў на паўтаратонцы
Усю акругу навакол.



Здавалася, не ведаў зморы —
Хоць суткі не заплюшчыць воч,
Усе дзівіліся з Ягора,
Што за рулём і дзень і ноч.

Калі ж Макоўскі партызаніў,
Няхай хадзіў ён пехатой,
Яму ад рання і да рання
Тым больш нязнаны быў спакой.

Скрозь партызанская брыгада,
Наводзіла на катаў жах —
Ягор быў першым у засадах
На ўсіх дарогах і шляхах.

За гора роднай Беларусі
Вёў, помсцячы, рахунак свой,
Але аднойчы не вярнуўся
Ён з аперацыі адной.

І я, прыйшоўшы, па-сяброўску
Кажу яму:—Герой-арол,
Устань, Ягор!.. Устань Макоўскі,
Прыгледзься добра навакол.

Прыслухайся — нібы варкуе
Матор на наш увесь калгас,

---

*Надзённае, неадкладнае*

# СВЯТА САПРАЎДНАГА НАРОДАЎЛАДДЗЯ

У рэспубліцы, як і ва ўсёй Савецкай краіне, ідзе рэгістрацыя кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР. Напярэдадні працоўныя на сваіх сходах назвалі імёны самых дастойных, самых лепшых і паважаных сваіх сыноў і дачок, тых, якія змогуць з гонарам выконваць высакародныя абавязкі членаў урада самай дэмакратычнай дзяржавы ў свеце. На ўсіх перадвыбарчых сходах працоўныя нашай краіны вылучалі сваімі кандыдатамі ў дэпутаты кіраўнікоў партыі і ўрада. Гэта з'явілася хвалюючай дэманстрацыяй даверу і любві да роднай Камуністычнай партыі.

Пачуццё радасці выклікала ў працоўных Мінска вестка аб тым, што член Палітбюро ЦК КПСС, першы намеснік Старшыні Савета Міністраў СССР К. Т. Мазураў і кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар ЦК КП Беларусі П. М. Машэраў далі згоду балаціравацца па Мінскай гарадской першай выбарчай акрузе і Мінскай—Савецкай выбарчай акрузе.

Рабочыя Бярозаўскай ДРЭС аднадушна назвалі сваім кандыдатам у дэпутаты Савета Нацыянальнасцей па Кобрынскай выбарчай акрузе народнага паэта рэспублікі першага сакратара праўлення Саюза пісьменнікаў БССР Яўгена Іванавіча Скурко (Максіма Танка). Меліяратары Іванаўскага будаўніча-мантажнага ўпраўлення трэста «Брэстбурвод» вылучылі кандыдатам у дэпутаты Савета Саюза па Кобрынскай выбарчай акрузе экскаватаршчыка Івана Андрэевіча Палійку. Калгаснікі сельгасарцелі «Новы быт» Мінскага раёна назвалі сваім кандыдатам у дэпутаты Савета Саюза па Мінскай сельскай выбарчай акрузе міністра замежных спраў СССР Андрэя Андрэевіча Грамыку, а калектыў калгаса «Авангард» Гродзенскага раёна па Гродзенскай выбарчай акрузе — старшыню сваёй арцелі Пятра Іосіфавіча Дзеншчыкова; у калгасе імя Леніна Рагачоўскага раёна — звенявую па ільне Ганну Васільеўну Сідарэнка, у саўгасе «Хотава» Стаўбцоўскага раёна — прэзідэнта АН БССР Мікалая Аляксандравіча Барысевіча. Народны паэт — і экскаватаршчык, міністр — і старшыня калгаса, звенявая — і прэзідэнт Акадэміі навук рэспублікі... Што можа больш яскрава і пераканаўча сведчыць аб характары нашай дзяржаўнасці, аб сапраўдным росквіце народаўладдзя!

Нашы ўстановы культуры павінны прыняць самы актыўны ўдзел у правядзенні выбарчай кампаніі. Зараз няма больш ганаровай задачы ў культармейца, як глыбока і ўсебакова растлумачваць выбаршчыкам велічныя прынцыпы Канстытуцыі СССР, ролю і значэнне Саветаў у кіраўніцтве гаспадарчым і культурным будаўніцтвам, у далейшым умацаванні саюза рабочага класа і сялянства, маральна-палітычнага адзінства савецкага грамадства. Усімі формамі і метадамі клубна-бібліятэчнай работы трэба паказваць росквіт сацыялістычнай дэмакратыі, вялікія перавагі савецкага грамадскага і дзяржаўнага ладу над капіталістычным, расказваць аб вялікім і гераічным шляху, пройдзеным савецкім народам за гады Савецкай улады пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі, аб пераможным поступе савецкіх людзей ад адной заваёванай вяршыні да другой, аб ажыццяўленні ў нашай краіне велічных ленінскіх ідэй, мар і спадзяванняў Ільіча.

У большасці дамоў культуры, клубаў, бібліятэк, паркаў культуры і адпачынку ўжо аформлены наглядная агітацыя, прысвечаная выбарам, арганізаваны стэнды і выстаўкі кніг, плакатаў і іншых матэрыялаў, якія ярка паказваюць дасягненні рэспублікі, абласцей і раёнаў, гарадоў і сёл у сацыялістычным спаборніцтве за датэрміновае выкананне пяцігадовага плана.

Ды гэта ж сын твой меншы, чуеш,
Павёў кудысьці дужы МАЗ.

Машынай можна ганарыцца,
Яна не знае перашкод.
Ды гэта ж, ведай, Мінск-сталіца
Іх выарабляе колькі год.

І гідрастанцыі краіны
Сягоння дзякуюць ім шмат,
Дзе клаўся ў дужыя плаціны
І беларускі наш уклад.

Будуем мы свой кут бацькоўскі,
І справа ў радасных руках.
Ты паглядзі, Ягор Макоўскі,
Якая школа?.. Што за гмах!..

Паміж вясковых ніў, сялібаў
Такою школа не была —
Высокі дах, па сажню шыбы,
У кожным класе шмат святла.

А вунь далей, вунь пабліз лесу
Узняўся за апошні час
Будынак у абдымках бэзу...
Ды гэта ж сад дзіцячы наш.

Кіруе дзецьмі там другая,
А мы з часоў вайны цяжкой
Аб партызанцы ўспамінаем,
Аб партызанцы-сувязной,

Што да вайны калісьці ў садзе
За выхавальніцу была —
У партызанскай жа брыгадзе
Разведкаю дапамагла.

Яна была—само бясстрашша,
Між куль хадзіла па начах.
Яе ж павесілі, спаймаўшы
Ля роднай хаты ўсім на страх.

Я слову, што хачу прамовіць,
Кажу: — Ты Раю абудзі!..
Устань жа, Рая Галубковіч,
Устань жа, Рая, паглядзі!

Вунь колькі іх маленькіх, мілых,
Бы кветнічак жывы гудзе —
Адна з малых, што ты вадзіла,
Цяпер ужо другіх вядзе.

Мы рады, шмат іх паўзрастала,
Як быццам кветак веснавых...
Ты ім жыццё ахвяравала
І сёння ты жывеш між іх.

І я хілюся галавою
Да вас, як да сяброў сваіх:
Я з вамі гавару, героі,
Здаецца бачу вас усіх.

У час, як смерць над светам вісла,
Збавіцелі вы ўсёй зямлі.
Здаецца, бачу тых, што з Віслы,
З Дуная, Шпрэе не прыйшлі.

Мы помнім іх і заўжды шчыра
Успамінаем, дзе яны —
Яны ляжаць на варце міру...
А іх ахоўваюць сыны.

А іхніх спраў і думак крылы
Высока рушылі ў палёт,
Бо з намі Ленін — поўны сілы,
Хоць яму сёлета сто год.

І сёння, скрозь—усе краіны
Пераканаў вялікі плён —
Паўдзён Савецкае айчыны,
Здзяйсненняў ленінскіх паўдзён!

III.

А я і ўвечар стрэўся з вамі,
Пакуль няма бліскучых зор,
Ён прыкрывае, што сцягамі
Чырвонымі зялёны бор.

Туман прыўзняўся над ракою,
Спачыць збіраецца калгас.
А я да вас прыйшоў, героі,
У гэты вечаровы час.


Мал. К. Ціхановіча.

Зямлі айчыннай дазорцы,
Далі мы нелюдзям урок.
Стаю ізноў пры вашай зорцы
Што як чырвоны агенёк.

Агні ўсіх хутка пасклікаюць.
І птушкі ўжо імкнуць да гнёзд
А я цябе прыпамінаю,
Стары пчаляр Мікола Дрозд.

Было яно вайной. Уночы
У вёсцы фрыцы загулі —
Так да цябе ў твой дом аднойчы
На агенёк яны прыйшлі.

Пра мёд дазналіся дакладна,
Давёў ім паліцай-жандар,
Спыталі, быццам далікатна:
— А ну, дай мёду, гер-пчаляр.

Пра шынку павялі развагі,
Пра агуркі, пра іх засол...
Яны ж паклалі для павагі
Бізун і пісталет на стол.

І ты, як мог, гасцей забавіў,
З пашанаю падносіў сам.
Ды, што казаць—усё паставіў,
Як добрым некалі людзям.

І фрыцы прагна пілі, елі
І хтосьці «Гітлер хайль» крычаў,
Але як трэба пахмялелі.
Такую ты закуску даў,

Што ад таго твайго частунку,
Ім мала што дапамагло б.
Раўлі жахліва: — Гвалт!.. Ратунку!..
Ды вочы вылезлі на лоб.

Ты вызначыў для іх дарогу,
Як злосным трутням, чорнай тлі,
А сам уцёк. Ды ненадоўга.
Цябе эсэсаўцы знайшлі.

Ты смела стрэў канец гвалтоўны,
З пятлёй, на ўласным жа двары...
Ты спіш, Мікола Дрозд шаноўны,
Паміж сваіх, пчаляр стары.

Устань жа, глянь на край вясёлы,
На свой, ізноў абжыты кут.
Ты паглядзі, што нават пчолы
Цябе наведваюць і тут.

Ніводзін вулей непакінуў
Цябе. Працуе да цямна.
І кожны іх палёт пчаліны
Нібы звінячая струна.

А пасека цяпер такая,
Што йдзе рашуча на вырост.
А твой заступца ўспамінае
Пра вас усіх, Мікола Дрозд!

Мы з вамі ўсёю грамадою.
Мы з вамі кожны, кожны дзень.
Схіліўся я пры вас, героі,
І мой схіліўся доўгі цень.

Ужо і вечар травы росіць.
І сонца жухне, не пячэ,
Хоць на вяршынях гонкіх сосен
Яно гушкаецца яшчэ.

Ды праца скончана сягоння,
Хай цемра між ялін густых,
Ды з клубу светлага гармонік
На вечар кліча маладых.

І клуб з вучобай і з гульнёю,
Як муравейнік той жывы...
Я з вамі гавару, героі —
Усё завааявалі вы.

На абеліск кідаю вока,
Дзе землякоў іменаў шмат,
Што не прыйшлі з франтоў
далёкіх...
Між іх—Янута Беласад.

Наканавала табе доля
Быць пехацінцам між байцоў.
Ты дома працаваў на полі,
Пяшком палі вайны прайшоў.

Ты, як прыпала, харчаваўся,
Хоць пот не пакідаў твой лоб.
Ды што прайшоў-прапоўз,
прарваўся,
Прабег з акопа ды ў акоп.

Ты здолеў у Берлін дабрацца
Адным з найпершых, Беласад,
Хоць на рэйхстазе распісацца
Табе не выпала, салдат.

Ты паў у логаве разбою,
І хай рэйхстага не дапяў, —
Скрозь распісаўся ты крывёю.
Па ўсёй зямлі, што вызваляў.

Калі ў Берлін я прыязджаю,
Дык сэрца здзейснячы наказ —
У Трэптаўпарку пазіраю
На помнік. Быццам ты якраз!

Я добра ведаю і месца,
Дзе пахаваны ты ляжыш,
Ды мне ж усё, усё здаецца,
Што з дзіцем гэта ты стаіш.

Тваё імя я тут чытаю,
Дзе разам мы з табой жылі —
Мы славім вас і ўспамінаем,
Дзе б вы далёка ні былі.

Хто ўспамінае бацьку, сына,
А хто братоў, сясцёр сваіх...
А колькі іх па ўсёй Айчыне
Такіх узгоркаў дарагіх, —

Якія ў гонар родных, блізкіх
Узняў савецкі чалавек,
Дзе запісаны ў абеліскаx
Імёны вашы ўсе навек.

Мы славім вас, хто ноч развеяў,
У няўміручасці імён, —
Хто ля Дуная паў, ля Шпрэе,
Хто дома нёс фашыстам скон.

Мы славім плёнам працавітым,
Паверхам, што ўзвышае дом,
Мы славім коласам налітым,
Паэм узбуджаным радком.

І новай домнай, так нагрэтай,
Што выплаўляе сталь як след,
І той касмічнаю ракетай,
Што раскрывае нам сусвет.

Усім, здабытым сёння намі,
Зрабіць што здолеў чалавек —
Пустынь зацвіўшымі садамі,
Плацінамі магутных рэк.

Машын бясконцай чарадою,
Чароўнай мастака рукой,
А найгалоўнае — сваёю
Крышталька-чыстаю душой.

Мы чвэрць стагоддзя вольна
сеем...
Як наша зернята ўзрасло!
Стаю пры вас. Ужо цямнее.
На захад сонца паплыло.

Яно ж на сілу не слабее,
Пайшло ў далейшы кругаход...
Так наш і Ленін — не старэ,
Хоць яму сёлета сто год.

Сакавік. 1970 г.

Ёсць чаму павучыцца ў гэтых адносінах у культасветустановах Мінскага і Стаўбцоўскага раёнаў. У Мінскім раёне знойдзена ўдалая форма агітацыйна-прапагандысцкай работы ў масах — пастаянна дзеючыя інфармацыйныя цэнтры. Зараз у іх адчынены і старанна афармлены агітпункты. Старанна папрацавалі над афармленнем агітпунктаў культармейцы Стаўбцоўшчыны. У агітпунктах, клубах і бібліятэках гэтых раёнаў часцей сталі праводзіцца кансультацыі з выбаршчыкамі. Для выбаршчыкаў чытаюцца лекцыі і даклады, праводзяцца тэматычныя вечары, сустрэчы са старымі камуністамі, ветэранамі працы, грамадзянскай і Айчыннай войнаў, наватарамі вытворчасці, працаўнікамі літаратуры і мастацтва. Масавыя бібліятэкі палепшылі прапаганду грамадска-палітычнай літаратуры і матэрыялаў па выбарах у Вярхоўны Савет СССР, ленінскай ідэйна-тэарэтычнай спадчыны.

Старанна працуе ў гэтыя дні агітбрыгада Стаўбцоўскага раённага Дома культуры. Толькі за апошнія дні яна зрабіла пяць выездаў з абноўленай праграмай у аддаленыя вёскі раёна. Перад пачаткам мастацкай часткі выступлення заўсёды чыталіся лекцыі і даклады на спецыяльна распрацаваную перадвыбарную тэматыку. Цікавы тэматычны вечар адбыўся нядаўна ў адной з лепшых культасветустаноў раёна — Засульскім сельскім клубе. У канцы вечара перад працаўнікамі палёў выступілі шэфы — калектыў мастацкай самадзейнасці Мінскага тэхналагічнага інстытута.

Міністэрства культуры рэспублікі абавязала ўсе клубныя ўстановы Беларусі палепшыць культурнае абслугоўванне насельніцтва ў гэты перыяд, рэгулярна арганізоўваць канцэрты самадзейных і прафесіянальных артыстаў. У дзень выбараў—14 чэрвеня 1970 года—ва ўсіх гарадах, рабочых пасёлках і вёсках, у дамах культуры, клубах на вуліцах і плошчах, у парках і скверах трэба арганізаваць масавыя народныя гулянні, выступленні мастацкіх калектываў, эстрадных і духавых аркестраў. Свой уклад у абслугоўванне насельніцтва абавязаны ўнесці тэатры і канцэртныя арганізацыі. Разам з органамі кінафікацыі работнікі ўстаноў культуры павінны арганізаваць для выбаршчыкаў прагляд кінафільмаў, якія расказваюць пра гісторыю нашай Радзімы, поспехі савецкага народа ў будаўніцтве камунізма.

Значна ўзрастае ў гэтыя дні роля абласных і Мінскага гарадскога ўпраўленняў культуры, гарадскіх і раённых аддзелаў культуры. Свой удзел у гэтай важнай палітычнай кампаніі павінны вызначыць Дзяржаўная бібліятэка БССР імя У. І. Леніна, Рэспубліканскі метадычны кабінет культасветработы.

Паспяховы ўдзел устаноў культуры рэспублікі ў перадвыбарчай кампаніі можа быць дасягнуты ў тым выпадку, калі дамы культуры, клубы, бібліятэкі, паркі шырока скарыстаюць вопыт работы, накоплены ў час падрыхтоўкі і правядзення мінулагодніх выбараў у мясцовыя Саветы Беларусі, святкавання 50-годдзя БССР і стагоддзя з дня нараджэння Ул. І. Леніна.

Справа гонару культасветработнікаў зрабіць усё магчымае, каб выбары ў Вярхоўны Савет Саюза ССР прайшлі на высокім арганізацыйным узроўні і садзейнічалі яшчэ большаму згуртаванню працоўных горада і вёскі, нашай інтэлігенцыі вакол Камуністычнай партыі і Савецкага ўрада.

## ДА НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ

**Штотыднёвік «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА» паступае ў розьнічны продаж у абмежаванай колькасці. Таму раім быць яго сталымі падпісчыкамі.**

**Падпісацца можна на тэрмін з пачатку кожнага месяца да канца года.**

Падпіска прымаецца ва ўсіх аддзяленнях сувязі і грамадскімі распаўсюджвальнікамі друку.

# УВАГА... СЛУХАЙЦЕ... СЛУХАЙЦЕ...

*Гаворыць радыёстанцыя «Савецкая Беларусь» на хвалі 41,5 метра.*

*Слухай нас, родны беларускі народ!*

*Слухай нас, родная беларуская зямля!*

*Упершыню гэтыя словы прагучалі ў эфіры ў студзені 1942 года. З сталіцы нашай Радзімы — Масквы — радыёхвалі панеслі на часова акупіраваную нямецкімі фашыстамі Беларусь словы праўды, гневу, болю, заклік на барацьбу з ворагам. Штодзённа з 9 гадзін раніцы радыёстанцыя знаёміла са становішчам на франтах, з дзеяннямі беларускіх партызан, перадавала выступленні кіраўнікоў партыі і ўрада.*

*Часта ў эфіры гучаў голас беларускіх пісьменнікаў, мастакоў, артыстаў.*

*Успомнім жа іх палымянае слова.*

Аркадзь КУЛЯШОЎ:

## ЧАКАЙ НАС, БЕЛАРУСЬ

Аркадзь Куляшоў (справа) і Аляксей Суркоў. Калінінскі фронт. 1943 г.

Да цябе, беларускі народ, да цябе, наша родная зямля, імкнуцца нашы сэрцы. Віцебскія прасторы, магілёўскія лясы і пушчы, мінскія вуліцы і плошчы, мы ідзём да вас разам з Чырвонай Арміяй, гонячы чорныя гітлераўскія орды з роднай Савецкай зямлі.

Новае вялікае шчасце вызвалення хутка асветліць твае вёскі і гарады. Зноў заквітнееш ты, наш любы край, залечыш свае раны пасля цяжкіх пакут і нядолі.

Чакай нас, Беларусь! Гані са сваёй зямлі крывавых нямецкіх акупантаў, што забіваюць тваіх малых дзяцей, што гвалцяць тваіх дачок і катуюць тваіх сыноў. Гані памешчыкаў, якіх Гітлер хоча пасадзіць на тваёй зямлі. Ніколі беларус не будзе рабом нямецкіх князёў і баронаў.

Блізкі час твайго вызвалення, Беларусь!

7 сакавіка 1942 г.

Максім ТАНК:

## СУСТРЭНЕМСЯ НА ВОЛЬНАЙ ЗЯМЛІ

Праз калючыя драты і акопы фронту мы бачым крывавае зарыва пажараў на Беларусі, мы чуем стогны закатаваных беларускіх людзей. Мы чуем і гром нарастаючай народнай партызанскай барацьбы. У першых радах мужных воінаў Чырвонай Арміі ідзе бясстрашная савецкая моладзь. У першых радах народных мсціўцаў на Беларусі знаходзіцца гераічная беларуская моладзь.

Моладзь Беларусі! Рашучай узнімайся на свяшчэнную ўсенародную барацьбу. Перамога будзе за намі, але гэтую перамогу трэба заваяваць, трэба вырваць у ворага. Не возьмеш сёння зброі ў рукі, не заб'еш немца, заўтра можа быць позна. Заўтра фашысцкія людаеды могуць цябе пагнаць на страшэнную катаргу ў Германію, могуць навекі загубіць тваё маладое жыццё. Ідзіце ж у рады народных мсціўцаў, каб не быць рабамі, а быць вольнымі будаўнікамі свайго шчасця, сваёй будучыні.

*Зямля, якая век*
*Карміла нас, паіла*
*з сваіх рэк,*
*Якая захавала мо*
*не раз*
*Ад рук варожых,*
*ад ліхіх вятроў*
*Скарб спадчыны*
*свяшчэннае для нас*
*І мову неўміручую*
*бацькоў —*
*Не маем права*

Максім Танк. 1942 г.

*пакідаць ў ярме.*
*Не страх загінуць каля*
*родных меж,*
*Каб толькі зноў*
*пабачыць сонца ўсход*
*І зеляненочыя хвалі ніў.*
*На вольнае зямлі няма*
*сірот,*
*І ран, якіх бы час*
*не загаіў.*

Слава бясстрашным воінам Чырвонай Арміі і мужным народным мсціўцам, якія без промаху б'юць у сэрца фашысцкага гада, якія са зброяй у руках набліжаюць дзень перамогі над ворагам.

Таварышы партызаны! Чырвоная Армія граміць фашыстаў з фронту. Вы ж мацней біце ненавісных шакалаў з тылу. Чырвоная Армія і партызаны — гэта дзве грозныя сілы, якія навек змятуць фашысцкую чорную навалач, і мы зноў сустрэнемся на вольнай беларускай зямлі.

20 лютага 1942 г.

Кузьма ЧОРНЫ:

## НАРОД НЕ СХІЛІЎ ГОРДАЙ ГАЛАВЫ

Дарагая і любімая Беларусь, айчына наша, дачакалася вялікага дня. Чырвоная Армія ўступіла на беларускую зямлю. Ужо рынулася на захад перапалоханае нямецкае варанне адусюль, дзе яно думала атабарыцца.

Беларускія дарогі бачылі калісьці на сабе ўцёкі на захад разбітай напалеонаўскай арды. І сам Напалеон каля нашага Барысава ў Студзянцы затросся і перасеў з імперскага каня на сані і памчаўся, на злом галавы. Сёння па гэтых дарогах бяжыць гітлераўская арда.

Нашай роднай беларускай зямлі давялося перанесці першы ўдар нямецкіх полчышч. Але прыйшоў дзень расплаты і вызвалення. Блізкі той дзень, калі паўстануць з руін Гомель і Мінск, Віцебск і Магілёў... Блізкі дзень мірнай працы на вольнай беларускай зямлі.

Кузма Чорны. 1942 г.

Слава табе, народ, які не схіліў сваёй гордай галавы перад нямецкімі захопнікамі!

Кастрычнік 1943 г.

## ГАРЫМ АДНЫМ ЖАДАННЕМ

*Пісьмо калектыву Беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Янкі Купалы беларускаму народу.*

**Прывітанне табе, родны беларускі народ! Да цябе наша слова з вольных прастораў Савецкай зямлі. Ужо блізкі час твайго вызвалення ад фашысцкай нечысці, забрудзіўшай, апаганіўшай нашу дарагую бацькаўшчыну.**

Мы хутка вернемся дадому, родныя людзі нашы, сваякі і блізкія, сябры і сяброўкі, гледачы нашы з Мінска, Віцебска, Гомеля, Магілёва, з усіх тых гарадоў і пасёлкаў, дзе бачылі і памятаюць першы Беларускі дзяржаўны ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга драматычны тэатр.

Зараз мы працуем у горадзе Томску, што ляжыць на раўнінах Сібіры за старым недаступным Уральскім хрыбтом.

Рускія людзі, простыя і душэўныя, прынялі нас у сваю сям'ю, як маці прымае дзяцей сваіх.

Вось ужо дзевяць месяцаў жывём мы, працуем у Томску — і нас разумеюць, і нас любяць, і нашым мастацтвам захапляюцца, бо словы нашы зразумелыя, бо пачуцці ў нас адны і тыя ж, што і ў гледача. Бо сэрцы нашы б'юцца разам з сэрцам усёй нашай вялікай Радзімы.

Мы паказваем, як беларускія партызаны білі нямецкіх акупантаў у пушчах Палесся ў 1918 годзе, і глядач апладзіруе нам.

Мы паказваем, як подлы вораг сацыялізма стараўся прапаўзці ў савецкую ўстанову, каб шкодзіць там, каб стварыць пятую калону. Вы ж, мабыць, добра помніце гэтыя дзве п'есы — «Партызаны» і «Хто смяецца апошнім» нашага драматурга Кандрата Крапівы.

Апрача гэтых вядомых беларускаму гледачу п'ес нашага рэпертуару, мы за час вайны паставілі рад новых п'ес, якія заклікаюць наш народ да бязлітаснай барацьбы з ненавісным ворагам, якія абуджаюць у нашага гледача патрыятычныя пачуцці.

З першых жа дзён вайны, акцёры, заслужаныя майстры нашага тэатра мабілізавалі сябе на стварэнне новага рэпертуару, з якім выступалі на мабілізацыйных пунктах, у часцях Чырвонай Арміі, на караблях ваенна-марскога флоту, ля зенітных установак, абслугоўвалі байцоў адыходзячых на фронт эшалонаў, раненых байцоў у шпіталях, стаханаўцаў ваеннага часу на прадпрыемствах.

Так разам з усёй нашай вялікай сям'ёй народаў Савецкага Саюза жыве і працуе калектыў першага Беларускага Дзяржаўнага ордэна Чырвонага Працоўнага Сцяга драматычнага тэатра.

**Жыве адным жыццём — жыццём вайны!**

Гарыць адным жаданнем — жаданнем поўнай і рашучай перамогі над заклятым ворагам.

Жыве імкненнем і воляй да звароту на радзіму, каб з усёй энергіяй і сілай нашай узяцца за аднаўленне нашага разбуранага дома, за пабудову яшчэ лепшага, яшчэ больш прыгожага і шчаслівага жыцця.

1 чэрвеня 1942 г.

Артысты-купалаўцы на Калінінскім фронце. 1943 г.

Калі мяне выклікалі ў штаб і аб'явілі: «Накіроўваем на работу сярод войск праціўніка», я не ведаў, што адказаць. «Спрабуй пагаварыць з ім, — думаю сабе, — праціўнік гэты рвецца наперад, галовы яго салдат зачумлены нацызмам. Прачысціць іх можна хіба толькі «кацюшамі».

Камісар, пажылы чалавек, які пваяваў у грамадзянскую вайну, быццам прачытаў мае думкі:

— Нічога, — кажа, — на вайне і слова — зброя. Ды яшчэ якая...

Потым мне далі «гаварылку» — чамаданчык, у якім змяшчалася ўся акопная радыёўстаноўка: вялікі рэпрадуктар і семсот метраў кабеля.

За штабам, на ўскрайку лесу, я рашыў праверыць «акопку». Павесіў на сасне рэпрадуктар, адкрыў чамаданчык, выняў мікрафон.

Чытаю тэкст. Нічога, гучыць добра. Далёка па лесе і па полі нясецца:

— Дойчэ зольдатэн!

Раптам бяжыць дзяжурны па штабе.

— Спыні «гаварылку», — загадвае. — Штаб дэмаскіруеш.

— Дык трэба ж праверыць.

— На перадавой, на гітлераўцах правёрыш.

На перадавой «гаварылку» сустрэлі таксама няветліва. Камандзір роты клапаціўся, каб яго салдаты, стомленыя за дзень у цяжкіх баях, крыху адпачылі. Дый праціўнік выматаўся і прыціх.

— А вы пачнеце гаварыць, узнімецца «сабантуй».

Камроты меў рацыю. Калі салдаты на досвітку не змогуць адбіваць контратакі, ніякім словам фашыстаў не затрымаеш. Аднак загад ёсць загад. Камандзір роты выканаў яго. Ён адвёў месца для «гаварылкі» на левым флангу роты ля самага балота, у нежылым бліндажы, які выкапалі для дэзарыентацыі праціўніка. «Калі пачнецца «сабантуй», хай лупіць па балоце», — схітраваў камроты і, пакінуўшы мне двух аўтаматчыкаў, пайшоў.

А ў мяне загад камісара. Не на балота ж кідаць словы, — думаю сабе. Падцягнулі мы кабель управа ад балота, як мага бліжэй да акопаў праціўніка. Установілі на адзінокім дрэве рэпрадуктар. Прыпаўзлі назад у бліндаж.

— А ты ім па-іхняму будзеш гаварыць? — пытае пажылы аўтаматчык, з цікавасцю прыглядаючыся да таго, як я наладжваю «акопку» і рыхтую мікрафон.

— А як жа...

— Дык скажы ім, гадам, каб яны пайшлі з нашай зямлі...

Тут ён дадаў некалькі рускіх слоў, якія не перакладаюцца на нямецкую мову.

— Так, прыблізна, я і перадам, — адказваю.

І вось над акопамі гучыць:

— Дойчэ зольдатэн!

Рэдкая перастрэлка спынілася. Над акопамі ўстанавілася цішыня, толькі гучаць словы.

— Слухаюць, — чую з акопа голас маладога аўтаматчыка.

— Хай паслухаюць, — з'едліва ад-

---

Ліпень 1944 года ў Беларусі быў гарачы. Дні стаялі спякотныя. На тварах салдат, іх вопратцы, ботах—цяжкі, ліпучы пыл. Душна было і ў кароткія ночы, напоўненыя грукатам матораў.

Масква салютавала ўжо вызваліцелям Оршы, Віцебска, Барысава. Прагрымелі пераможныя салюты ў гонар вызвалення Мінска. А армія генерал-лейтэнанта Папова, у якую ўваходзіла наша 1-я стралковая дывізія, усё яшчэ была ў лясах пад Ковелем. Так ужо склаўся мой воінскі лёс. Прагнуў уступіць на родную зямлю з усходу, а атрымалася інакш. Дывізія, у якой я ваяваў з пачатку вайны, імклівым ударам вызваліла Невель. За ім ужо відаць былі беларускія бары і рэкі.

Але загад павярнуў нашу дывізію, і неўзабаве палкі ўжо грузіліся ў эшалоны. Шлях быў далёкі. Праехаўшы праз вызваленыя вобласці Украіны, мы мінулі Кіеў, Сарны і нарэшце выгрузіліся на станцыі Рафалаўка.

Беларусь засталася на поўначы. Перад намі ляжалі балоцістыя берагі Стахода.

Наперадзе была Польшча. І нам, беларусам, здавалася, што мы не пабачым ужо свой родны край аж да перамогі. Але калі дывізія падышла да Заходняга Буга, нечакана паступіў новы загад: разгарнуцца на ўсход, адрэзаць гітлераўскае войска, што займала Брэст.

...Нашы часці, павярнуўшы на Брэст, аказаліся ў глыбокім тыле гітлераўскай арміі. На спадарожнай машыне я з некалькімі афіцэрамі паехаў за перадавымі батальёнамі. Праязджаем першы хутар, другі, трэці. Далёка прасунуліся нашы...

Леанід ПРОКША

# АКОПКА

З ФРАНТАВОГА БЛАКНОТА

— Перабяромся ў больш надзейны бліндаж.

Я паказаў на тэкст.

— Не варта. Хутка кончым.

У гэтую ноч мы яшчэ некалькі разоў пад такі ж, а часам і большы акампанемент паўтарылі перадачу. А на досвітку аўтаматчыкі папаўзлі да адзінокага дрэва, каб зняць рупар. Я хацеў ісці з імі. Салдаты запярэчылі:

— Справімся самі. Адпачні.

Угаворваць мяне не было патрэбы. Я паклаў пад галаву чамаданчык сваёй «акопкі» і пачаў драмаць, з прыемнасцю думаючы, што салдатам ужо палюбілася тая справа, якую мы рабілі.

Разбудзіць мяне змаглі толькі перад абедам. Пакуль мы елі кашу з салдацкіх кацялкоў, камроты жартаваў:

— Вы спалі, а мы тут ледзь спраўляліся адпраўляць перабежчыкаў у тыл.

Настрой яго палепшыўся. Хоць «сабантуй» і быў моцны, але рота не мела страт.

— Якіх перабежчыкаў? — пытаюся.

— Паслухалі фрыцы вашу перадачу і гужам у палон.

Я пацiснуў плячыма:

— Будзе яшчэ і такое.

Камроты ўсміхнуўся, адклаў у бок пусты кацялок і паўтарыў словы, якія ў час вайны былі папулярныя: «біццё вызначае свядомасць».

— Вось-вось,—стараюся перакнаць камроты, хоць і сам больш веру ў гэтыя словы, чым у «гаварылку»,— як пачнецца сапраўднае «біццё», дык казвае пажылы аўтаматчык.

Цішыня, аднак, была нядоўгай. Нейкі там обер, відаць, даў загад, заглушыць «акопку». Фашысты адкрылі агонь з усіх ствалоў.

— Ага, заела, — радуецца пажылы аўтаматчык. І, уцiснуўшыся ў бліндаж, падбадзёрвае мяне: — Давай ім, давай, рэж праўду-матку.

Ля бліндажа разарвалася адна, другая міна...

— Гэта «гаварылку» намацваюць. Нічога, ты давай!

Я адварочваю ўбок мікрафон і знакам паказваю аўтаматчыку, каб ён маўчаў.

Зноў разарвалася некалькі мін. Са столі на тэкст і на лямпу, зробленую з гільзы снарада, пасыпаўся пясок. Пажылы аўтаматчык хутка прыкрыў агонь шапкай і мігнуў мне: «Давай, маўляў, бо як змоўкнеш, засякуць варожыя артылерысты і накрыюць».

Прыбег камроты.

успомняць, што рускія не кідаюць слоў на вецер.

Тым часам змеркла. Камандзір роты з палёгкай пераправіў мяне з «акопкай» у другую роту. Тут прынялі таксама не з вялікай ахвотай. Ведалі пра «сабантуй» у суседзяў і якая ноч чакае іх. І так было на пачатку вайны не ў адной роце...

Аднойчы, калі я прылёг пасля перадачы адпачыць, паклаўшы галаву на «акопку» разбудзіў мяне пасыльны камандзіра батальёна:

— Камбат вас просіць.

— Здарылася што?

— Перабежчык з'явіўся. На рупар «гаварылкі» прыпоўз.

Хоць і прыемна чуць такое, але не веру. Іду за пасыльным, стрымліваю сваё хваляванне. «А раптам нейкі жарт?»

Не, сапраўды. Сядзіць у бліндажы нямецкі салдат. Устаў хуценька, выцягнуўся. Пытаю, хто, адкуль? Аказваецца, паляк з Сілезіі. Прымусілі ісці ў гітлераўскую армію, але ён не хоча «ваяваць за швабаў». Даведаўся з перадачы пра польскае войска і рашыў перайсці на наш бок.

— За кулямётам усе сілезцы. Калі б падпаўзці да іх і гукнуць, прыйдуць да вас — кажа салдат.

«Няблага, — думаю сабе. — Адзін перабежчык, усё ж гэта адзін. Увесь разлік і да таго ж кулямёт — гэта ўжо нешта».

Параіліся. Камбат выдзяліў аддзяленне аўтаматчыкаў. Але тым часам развіднела. Трэба было перачакаць дзень.

Палоннага накармілі. Ён ахвотна расказаў, хто яго сябры, што ён бачыў на акупіраваных землях Беларусі, як цяжка акупацыю пераносіць польскі народ. Думалі ўжо пра выступленне сілезцаў праз «акопку», заставалася толькі прывесці іх усіх у «студыю».

Усё спрыяла поспеху. Наступіла цёмная ноч. Аўтаматчыкі загарэліся аперацыяй. Папаўзлі асцярожна, ціха, не спускаючы вачэй з перабежчыка, бо хоць ён нібы і праўду гаворыць, але ўсё ж трэба быць напагатове.

Вось ужо кулямётная ячэйка ворага блізка. Перабежчык высоўваецца наперад.

— Хлопцы, то я, Франэк, — звяртаецца ён да сваіх сяброў-кулямётчыкаў.

— Цішыня. Хвіліна, дзве. «Сябры Франэка, відаць, збіраюць рэчы»,— думаю сабе. А ў адказ — доўгая кулямётная чарга, якой, здаецца, не будзе канца. Якая можа быць пасля гэтага гаворка. Давялося вяртацца ні з чым. Добра, адразу нашы зарыенціраваліся і пачалі агнём прыкрываць наша адступленне.

Паўзём назад. Аўтаматчыкі злуюць: «Вось табе і сілезцы». Перабежчык збянтэжаны. Ён падпаўзае да мяне.

— Не, гэтага не можа быць. Сілезцы не маглі ў мяне страляць.

— Сапраўды, гэта «не гжэчне» з іх боку, — жартую. І хоць у самога кошкі на сэрцы скрабуць, але задаволены хоць тым, што нікога не страцілі ў гэтай аперацыі.

Прычына няўдачы для нас спачатку была няяснай. Потым ужо ад «языка» мы даведаліся, што немцы днём заўважылі знікненне аднаго з кулямётчыкаў і знялі ўвесь кулямётны разлік. А пасля выступлення перабежчыка праз «акопку» ўсіх сілезцаў знялі з перадавой і накіравалі ў тыл.

Зараз у варожых акопах пачуюць голас палоннага нямецкага салдата.

Спалохала немцаў слова з «акопкі».

Ішоў час. Неяк выклікалі мяне ў вышэйшы штаб. А калі выклікае начальства, перш за ўсё думаеш: «За што могуць узгрэць?» А узгрэць за што заўсёды знойдзецца. Быў у нас на фронце такі выпадак: на наш бок перайшоў пад уплывам акопнай прапаганды венгерскі батальён. У хлопцаў галовы закружыліся. То, бывала, «языка» з крывёю бралі, аднаго перабежчыка ледзь не з кветкамі сустракалі, а тут цэлы батальён.

Чакаюць хлопцы падзякі, а можа і ўзнагароды. І раптам тэлеграма ад Мануільскага. Змест яе прыблізна такі: «Дрэнна працуеце». У начальства свая лінія. Калі б лепш папрацавалі, мог бы перайсці і полк... Вось тут і ведай, калі цябе могуць пахваліць, і калі ўзгрэць. Дык лепш спадзявацца на апошняе.

Прыйшоў я ў штаб. Не паспеў далажыць:

— Прыбыў па вашаму...

— Добра, што прыбыў, — перабівае мой даклад батальённы камісар.—Давай у машыну. На аэрадром едзем.

У машыне даведваюся, у чым справа.

— З неба паспрабуем весці прапаганду, — растлумачыў камісар, — агітсамалёт атрымалі. Сёння паглядзім, як гэта будзе атрымлівацца.

Пакуль даехалі да аэрадрома, я ўжо ведаў сваю задачу. На самалёце У-2 з лётчыкам я павінен падняцца прыблізна на два кіламетры ў неба за лініяй фронту, лётчык збавіць абароты матора і па крузе пачне зніжацца. У гэты час я павінен паўтарыць адзін кароткі сказ па-нямецку: «Гітлер прайграў вайну», або нешта іншае ў гэтым духу. Усё, зразумела, будзе рабіцца ноччу, нечакана для праціўніка.

Лётчык, старшы лейтэнант Зорын, ужо чакаў нас. Ён зірнуў на мяне вывучальна, і, узяўшы пад казырок, спытаў камандзіра агітэскадрыллі:

— Дазвольце ісці...

Усю дарогу да самалёта Зорын маўчаў. Толькі час ад часу пры ўспышцы зарніц пазіраў на мяне коса.

Падышлі да самалёта. Механік далажыў, што ўсё ў парадку.

Лётчык пачаў правяраць машыну. Рабіў гэта ён прыдзірліва, і механіку давялося не раз тое-сёе падкручваць. «З такім лётчыкам не прападзеш», — думаю сабе, — я былы танкіст і ведаю, як трэба рыхтаваць машыну ў паход. Але адно на зямлі, а другое ў паветры. Прыдзірлівасць Зорына мне спадабалася і супакоіла. А Зорын думае сваё: «Паглядзім, якім ты героем акажашся ў паветры». І дае мне знак, каб я заняў сваё месца.

Надзяваю на шыю ларынгафон, правяраю станцыю:

— Усё ў парадку.

Падняліся ў паветра. Цяпер Зорын пачаў правяраць мяне. То крута набірае вышыню, бо рэзка пікіруе, то робіць развароты. Зямля ўздыбліваецца перад маімі вачыма, то знікае... Зорын паварочвае да мяне галаву, усміхаецца. Маўляў, ну як? Гэта табе не на зямлі.

А я спакойны. Ведаю, лётчык надзейны.

Пакруціліся над аэрадромам. Лётчык дае каманду: «Пачынай». Самалёт ужо збавіў абароты матора і пачаў планіраваць па крузе. А там на зямлі ўжо голас з неба слухае начальства.

Праз паўгадзіны прызямліліся. Лётчык падыходзіць да камандзіра эскадрыллі, але маёр дае яму знак, што дакладваць трэба чалавеку, які стаіць побач. У цемнаце я не змог пазнаць яго.

— Выпрабавальны палёт завершаны. Радыёстанцыя працавала нармальна.

— Чуў, чуў, добра...

Голас старэйшага начальніка здаўся мне знаёмым. Прыслухаўся. Дык гэта ж першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі таварыш Панамарэнка.

Яшчэ хвіліну, і сакратар ЦК паціскае мне руку:

— Ну што ж, як кажуць, у добры час.

А неўзабаве голас з неба пачаў гучаць над войскамі праціўніка.

Слова праўды з «акопкі» і з неба гучала на ўсім фронце. Сотні інструктараў па рабоце сярод войск праціўніка пад агнём вяшчалі ленінскія ідэі. Прайшоў час, і на голас «акопак» ужо ішлі не адзінкі. У ГДР цяпер ёсць у мяне шмат сяброў, якім голас «акопкі» дапамог стаць на шлях барацьбы з фашызмам.

Меў рацыю камісар: на вайне і слова зброя.

У ГЭТЫЯ ДНІ УСПАМІНАЕЦЦА



Здымак 1944 г.

Юрый БАГУШЭВІЧ

# ТАМ, ДЗЕ ПАЧЫНАЛАСЯ

На ўскраіне сяла спыняем машыну і ідзём па шырокай бязлюднай вуліцы. Па адным, а пасля групамі з'яўляюцца жыхары. Яны акружаюць савецкіх байцоў і прагна слухаюць пра наступленне савецкіх войск, пра польскія часці, што змагаюцца на савецка-германскім фронце.

Сяло польскае. Мы самі не заўважылі, як перасеклі граніцу і апынуліся на тэрыторыі Польшчы. Праз натоўп праціскаецца ўсхваляваны селянін.

— Таварышы, таварышы! Нямецкая кавалерыя скача сюды...

Нас мала: усяго чатыры афіцэры ды на далёкай ускраіне сяла гарматны разлік. Вырашаем залегчы за плотам бліжэйшага двара і сустрэць ворага агнём аўтаматаў і карабінаў.

І ў гэтыя лічаныя хвіліны раптам бачым на кані камандзіра 408-га палка маёра Бойку з двума коннымі разведчыкамі. Камандзір хутка разабраўся ў абстаноўцы. Ён ведаў, што першы батальён палка набліжаецца да сяла, а разам з ім ідзе конная батарэя 76-міліметровых гармат. Галопам скача разведчык да камандзіра батарэі.

Варожая конніца набліжаецца да сяла.

— Беглым, прамой наводкай — агонь! — аддае загад камандзір батарэі старшы лейтэнант Казлоў.

Уздыбленыя коні скідаюць ездакоў. Варожы эскадрон рассыпаецца па балоцістым лузе, коні гразнуць. А ў гэты час першы батальён пад камандаваннем маёра Пятуніна кідаецца ў атаку.

Гітлераўцаў прыцiскаюць да ракі. Яны кідаюць коней і кулямёты і спрабуюць аказаць супраціўленне на другім беразе. Але нашых байцоў ужо нельга спыніць...

Праз суткі дывізія авалодала горадам Бяла-Падляска. Бой быў кароткі. Нямецкае камандаванне не паспела падцягнуць рэзервы, бо не чакала, што армія генерала Папова прарвецца ў іх тыл.

Наперадзе Цярэспаль, а за ім — Брэст. Гітлераўцы, што заселі там, зразумелі, што ззаду перарэзаны камунікацыі і кінуліся на захад. Некалькі дзён ішлі цяжкія баі. Палкі нашай дывізіі і суседняй гвардзейскай насмерць стаялі на шашы Брэст — Варшава.

А вось савецкія байцы ўжо штурмуюць станцыю Брэст. Вораг хаваецца ў пакгаўзах, напаўразбураных дамах. Нашы аўтаматчыкі трапнымі чэргамі і гранатамі выбіваюць іх адтуль.

Нечакана з блізкага лесу паказваюцца гітлераўцы. Разгарнуўшыся ў ланцуг, яны ідуць да станцыі. Кулямётчык Аляксей Карасёў зразумеў, што вораг хоча ўдарыць у фланг і тыл савецкіх байцоў.

Карасёў адкрыў запасныя скрынкі са стужкамі, зручней залёг за кулямётам.

З п'янай настырнасцю гітлераўцы працягваюць атакаваць. А кулямёт Карасёва не сціхае... Дзве роты гітлераўцаў знішчыў адважны баец. За гэты подзвіг ён стаў кавалерам Залатой Зоркі Героя.

Некалькі дзён спрабавалі немцы вырвацца з вогненнага кальца ля Брэста. Яны ішлі на «псіхічныя» атакі, спрабавалі ўпотай прабрацца на захад. Але старанні іх былі марныя.

Хоць і цяжкія былі баі, і смерць хавалася зусім блізка, помню, настрой ва ўсіх быў радасны, бадзёры: толькі сціхаў трохі агонь, як пачыналіся песні, жарты. У маім блакноце захаваўся расказ старшага лейтэнанта Мухіна.

«Вам смешна, а мне тады было не да смеху. З усіх бакоў контратакуюць немцы, а тут, калі ласка, прыводзіць да мяне Шалогін — сяржант-разведчык, пяць здаравенных гітлераўцаў.

— Калі ласка, кажа, — бярыце палонных.

А я і не ведаю, што сказаць. Гэта ж не пачак цыгарэт, у кішэню не пакладзеш. Гляджу на іх: твары вясёлыя, радыя, што ў палон трапілі.

Кажу сувязному:

— Шукай замок. Мы іх у склепе замкнем...

Той дастаў дзесь стары, заржавелы замок. Тлумачу палонным:

— Сядзеце ціха, не крычаць. Прыйду за вамі праз гадзіну.

Больш гаварыць не было часу. Павёў байцоў у контратаку. Здарылася так, што варожыя аўтаматчыкі занялі пакінутае намі сяло разам са склепам, дзе сядзелі палонныя.

Кажу Шалогіну:

— Давядзецца табе сваіх палонных другі раз у палон браць.

Увечары разбілі ворага і ўвайшлі зноў у сяло. Размясціліся ў той самай хаце. Бачу, замок цэлы. Адчыняю, і вачам сваім не веру: усе пяцёра сядзяць. І так узрадаваліся нам, аж заікацца пачалі...»

Дзень і ноч ішлі баі вакол Брэста. Наша армія не выпускала гітлераўцаў з катла. 27 ліпеня нямецкія контратакі пачалі заціхаць. А ўвечары вялікая частка акружанага ворага капітулявала.

На досвітку 28 ліпеня нашы байцы вызвалілі Брэст.

Мы праходзім па яго вуліцах, заваленых фашысцкай зброяй, разбітай тэхнікай. Зайшлі ў Брэсцкую крэпасць. Там таксама было шмат нямецкіх машын, транспарцёраў, абозных вазоў. Ніхто з нас яшчэ не ведаў пра гераізм абаронцаў Брэсцкай крэпасці, пра тое, як насмерць яны стаялі ў чэрвені 1941 года...

# МАГІЛЁЎСКАЯ ЎСЕСАЮЗНАЯ...












Гэтыя экслібрысы экспануюцца на выстаўцы «Ваенна-патрыятычная тэма ў экслібрысах» у бібліятэцы Магілёўскага завода штучнага валакна.

Выстаўка прысвечана 25-годдзю нашай Перамогі.

У экспазіцыі—180 твораў малой графікі 60 мастакоў, якія жывуць і працуюць у розных кутках Савецкага Саюза: кніжныя эмблемы дзяржаўных бібліятэк, музеяў, прыватных калекцый.

Малюнкі экслібрысаў расказваюць пра подзвігі савецкага салдата, пра слаўныя падзеі мінулай вайны. Па іх можна прасачыць гісторыю развіцця рускай зброі. Многія кніжныя знакі прысвечаны гарадам-героям, помнікам баявой славы, сіле і непераможнасці нашай арміі.

На нашых рэпрадукцыях — экслібрысы работы мастакоў Г. Краўцова (ксілаграфія), Я. Ціхановіча (лінагравюра), М. Панькова (цынкаграфія), А. Плаціцына (цынкаграфія).

**Праўленне Саюза пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Адаму Мальдзісу з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці МАЦІ.**



# ПРАЗ ЧВЭРЦЬ СТАГОДДЗЯ

*«Андрэй Касценя» ў Беларускім тэатры оперы і балета*

ПРЭМ'ЕРА новай оперы кампазітара-сучасніка — заўсёды падзея ў музычным жыцці. Праўда, яе сцэнічная гісторыя, бывае, абрываецца раней, чым хацелася б, і назва спектакля знікае з афішы. Лепш і прыемней, калі опера выконваецца не адзін сезон, калі яна правяраецца рознай аўдыторыяй слухачоў. Але ў любым выпадку кожны новы твор пакідае след у развіцці жанру, узбагачае карысным вопытам і музыкантаў, і выканаўцаў.

«Андрэй Касценя» — опера Мікалая Аладава, якая доўга чакала сцэнічнага ўвасаблення. Твор мае не адзін аўтарскі варыянт. Тэатр то абяцаў паставіць оперу, то «забываў» пра існаванне гэтай партытуры наогул. І трэба падзякаваць цяперашняму музычнаму кіраўніку нашай оперы К. Ціханаву і падтрымаць яго ў імкненні даць сцэнічнае жыццё оперным творам нацыянальных аўтараў. «Андрэй Касценя» — першая ластаўка сёлетняга сезона. Аматары музыкі ведаюць, што лібрэта оперы створана Пятром Глебкам і ў цэнтры падзей — вобраз, прататыпам якога быў Канстанцін Заслонаў. Аўтары не прытрымліваюцца біяграфічных фактаў, па-мастацку пераасэнсоўваюць іх; зменены і імёны некаторых рэальных асоб, уведзены персанажы, якія актыўна ўплываюць на сюжэтнае развіццё твора. Такім чынам оперу і па фабуле, і па музычнай драматургіі трэба разглядаць як арыгінальны мастацкі твор, а не ілюстрацыю да гістарычных падзей.

Тое, што опера, напісаная шмат гадоў назад, прабілася нарэшце на сцэну, выклікае няпросты роздум. Відаць, калі б мы праслухалі яе ў акцёрскім выкананні раней, нашы ацэнкі былі б не такімі, як цяпер. Спецыфіка ўвасаблення сучаснасці наогул і асабліва падзей і вобразаў вайны ў такой умоўнай форме, як музычны спектакль, можа і на прыкладзе «Андрэя Касцені» даць матэрыял для тэарэтычных спрэчак. Музыказнаўцы і дзеячы опернага мастацтва, мабыць, без іх і не абыдуцца. Гэта — наперадзе...

Чалавек сённяшняга дня або часоў вайны, апрануты амаль так жа, як і слухачы ў зале, успрымаецца далёка не ўсімі з «улікам» формы мастацтва (баец, які спявае арыю, або дуэт вучоных!). Прэм'еру «Андрэя Касцені» слухалі і маладыя людзі, якія ведаюць вайну па дакументальных фільмах, па кнігах, дзе адчуваецца рэальная праўда перажытага аўтарам, перанесеная на старонкі, па жывапісных палотнах з рэаліямі франтавога побыту і г. д. Такому слухачу цяжка «пераключыцца» на ўспрыманне фактаў вайны праз умоўна-оперную трактоўку. Калі ж браць твор М. Аладава ў «кантэксце» развіцця беларускага опернага мастацтва, мы можам сцвярджаць, што кампазітар развівае і ўзбагачае лепшыя традыцыі ў стварэнні музычнага вобраза сучасніка. Асабліва ўдалымі здаюцца тыя старонкі партытуры, дзе аўтар карыстаецца кантраснымі прыёмамі пісьма — прасякнутыя мужным лірызмам выказванні станоўчых герояў; спевы беларускіх дзяўчат, напрыклад, рэзка супрацьпастаўлены музычным характарыстыкам адмоўных персанажаў. Побач з лірыкай у тканіну твора ўплецены гратэск. Кампазітар удумліва сутыкае святло і цені. Мне здаецца, што такая распрацоўка агульнага характару оперы пакідае яркае ўражанне нават і ў тых, хто, як я ўжо сказала, наогул спачатку «пераадольвае» ўмоўнасць таго відовішча, што завецца операй. Сваім творам М. Аладаў разам з тэатрам даюць добрую спажыву для размовы аб сучаснай оперы.

Скажу пра свае першыя ўражанні.

Партыя Касцені бадай самая складаная. У ёй шмат вакальных цяжкасцей, востра драматычных сітуацый. Выканаўца Ю. Бастрыкаў здолеў пераадолець гэтыя цяжкасці. У адпаведнасці з тым, як гэта раскрыта ў музычнай драматургіі, ён малюе героя то кранальным, то рашучым, то трагедыйна напружаным перад небяспекай, якая пагражае і яму, і яго сябрам. Сярод салістаў Ю. Бастрыкаў вылучаецца тым, што ён аднолькава ўпэўнена паводзіць сябе і ў складаных драматычных абставінах, і ў адказных вакальных момантах. Акцёр наблізіўся да натуральнага суладдзя ў ігры і ў спяванні. Застаюцца ў памяці сцэны з III дзеі, калі фашысцкі афіцэр Штэкер, які падазравае Касценю ў сувязі з партызанамі, урываецца да яго з групай салдат; арыя Касцені з I дзеі «Я ўсё сцярплю, пагарду і знявагу, сцярплю дзеля цябе, мой родны край» (тэма яе становіцца лейтматывам роздумаў Касцені).

Не менш адказная, чым у Касцені, і вакальная партыя Тасі. Першае з'яўленне яе ў оперы (сцэна сутыкнення з Рэйнаў) вымагае ад выканаўцы вялікай эмацыянальнай аддачы. Кранае тая глыбіня пачуцця, з якой выконвае гэтую партыю Т. Шымко. Імкненне актрысы перадаць вакальнае хараство партыі дасягае мэты ў многіх мясцінах. Калі ж гаварыць пра акцёрскае выкананне, трэба адзначыць, што сцэнічныя сродкі ў раскрыцці індывідуальнага характару Тасі выглядаюць пакуль што дзяжурнымі: такой мы бачылі Т. Шымко і ў іншых операх... А слухаць яе голас, паглыблены ў стыхію пачуцця, перададзенага М. Аладавым вельмі ярка, прыемна.

Пэўны «разрыў» паміж вакальнай распрацоўкай партыі і акцёрскай ігрой чамусьці вастрэй адчуваеш якраз у сучасных операх. Відаць, салісты карыстаюцца тымі прыёмамі артыстычнай перадачы ўнутранага свету герояў, якія дарэчы бываюць і ўспрымаюцца як нешта натуральнае ў творах класікаў, з мінулых эпох. Пра гэта хочацца сказаць, бо ў «Андрэі Касцені» любы банальны жэст і завучаная поза кідаюцца ў вочы (хаця так было і ў спектаклі «Калі ападае лісце»).

Ад камерных эпізодаў М. Аладаў свабодна пераходзіць да масавых сцэн. Дзеючых асоб у оперы вельмі многа. І трэба сказаць, што сярод іх няма безаблічных, другарадных. І прастадушны, смелы Сашка, і любімец усіх Чапля, і гаварун-весяльчак дзядзька Мядок, і спакойная, разважлівая Насця, а з варожага лагера — самазадаволены і жорсткі афіцэр Рэйнаў, грубы і абмежаваны Штэкер, цынічная і распусная фраў Эльза, паліцай Прыблында, — усе яны характары. Партыі іх часта складаныя па тэсітуры, цяжкія для інтаніравання, а часам і не зусім «зручныя» ў вакальных адносінах. Напісаны яны з разлікам на выканаўцаў з багатым сцэнічным вопытам. Трэба адзначыць, што маладыя акцёры (сярод якіх ёсць і выхаванцы Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі: М. Зданевіч — Чапля, І. Атлыгіна — Насця, У. Іваноўскі — Сашка) справіліся са сваімі партыямі. Удзел у такім спектаклі будзе для іх добрай школай.

У оперы, як я казала, супрацьпастаўлены дзве групы вобразаў, якім дадзены кантрасныя інтанацыйныя музычныя характарыстыкі, — партызаны і нямецкія захопнікі. Канфлікт паміж імі складае драматургічны стрыжань усяго твора. У партытуры, у «галасах» хору і аркестра драматызм раскрыты надзвычай ярка. Творчыя калектывы пад кіраў-

# УЗЛЁТУ НЕ АДБЫЛОСЯ

*«Чалавек і глобус» у Брэсцкім тэатры імя Ленінскага камсамола Беларусі*

ТЭАТР імя Ленінскага камсамола Беларусі даўно паказаў прэм'еру спектакля «Чалавек і глобус» па п'есе В. Лаўрэнцьева, і гэта дазваляе гаварыць аб ім без скідак на прэм'ерныя выпадковасці, без якіх, здаецца, нельга абысціся. Спектакль ужо стаіць на абкатаных рэйках. Пераказваць змест п'есы няма патрэбы—яна добра вядомая. Прыгадаю толькі, што яна пра савецкіх вучоных-атамнікаў. У цэнтры падзей — вучоны Георгій Пятровіч Бармін.

І тэма, і герой —не новыя ў нашым мастацтве. Усё часцей на сцэнах і экранах з'яўляюцца спектаклі і фільмы аб вучоных. Праўда, не ўсе яны адкрываюць нам нешта нязведанае, дапамагаюць зазірнуць у «тайну», за якой стаяць жывыя людзі з іх пошукамі, перамогамі, паражэннямі... Бадай, да ўдалых работ «Дзевяць дзён аднаго года» і «Ступень рызыкі» ў кінематографе цяжка дадаць што-небудзь вартае высокай ацэнкі. І таму кожны новы спектакль на такую тэму заўсёды чаканы.

Роля вучонага Барміна асноўная ў спектаклі. Ён — «гаспадар» падзей спектакля. Мне здаецца, што як толькі выканаўца гэтай ролі крыху сфальшывіць, па-акцёрску кажучы, не трапіць «у струмень», будзе дрэнна. Як бы тады ні стараліся партнёры, якімі б прыёмамі ні карысталіся, глядач застанецца абыякавы да сутнасці паказанага жыцця. З гэтага, звычайна, пачынаюцца і іншыя хібы.

Можна іграць вучонага «наогул», зыходзячы з нейкіх агульнапрынятых у тэатры норм. Ходзіць па сцэне гэтакі вучоны муж, усё нібы правільна, але маштабнага вобраза ўсё-такі няма. Думаю, што выканаўца ролі Барміна ў Брэсце Сяргей Яўдошанка ведае гэта не горш за мяне. І я нават не магу падумаць, што ён ставіў перад сабой сціплую мэту—быць такім вучоным «наогул». Акцёр стараецца вырвацца з кола штампаў, адкінуць наноснае, фальшывае, паглыбіцца ў вытокі вобраза. А ці добра гэта, калі гледачы адчуваюць намаганні выканаўцы «быць», а не «здавацца» героем, вартым увагі? Не, так вучонага не сыграеш. Таму замест апантанасці, сапраўднай любві да сваёй прафесіі, нам прапануецца знешні малюнак вобраза. Бармін у С. Яўдошанкі вельмі часта выглядае адміністратарам, а не чалавекам навукі. (Шкада, мне не давялося пабачыць другога выканаўцу ролі—Б. Уксусава).

Магчыма, і п'еса дае падставы для такой характарыстыкі героя ў асобных калізіях: Бармін кіруе навуковай працай калектыву. Толькі аддаваць перавагу гэтай рысе ў вобразе не варта, бо гледачам куды цікавей тое адметнае ў вучоным, што складаецца ў спецыфічных умовах лабараторных і палігонных будняў, у асяроддзі паплечнікаў, сярод якіх ёсць і яго апаненты, і яго гарачыя прыхільнікі, і творчыя праціўнікі. Яго думка мабілізавана на спрэчкі і з самім сабой, і з тэорыямі і практыкай, якія супярэчаць яго перакананням, поглядам. Шкадуеш, што неспакойны дух шукальніка ісціны ў С. Яўдошанкі губляецца ў даволі ўпэўненым характары паводзін чалавека, які ведае, што за ім апошняе слова і перамога. Акцёр успрымаецца апранутым у гарнітур «наогул» станоўчага героя, вучонага «наогул». Ён, як мне здалося, забывае пра звышзадачу вобраза Барміна—служыць сваёй справай шчасцю людзей, аддаваць гэтай мэце талент і інтэлект нават у самых складаных абставінах. Пралік вельмі сур'ёзны—ён зніжае і філасофскі ўзровень спрэчак, што вядуцца ў драме. Рэжысёру Ю. Арынянскаму варта было б памагчы выканаўцу галоўнай ролі здабыць пафас значнай ідэйна-мастацкай задумы, якая ёсць у творы, хоць гэта і не так лёгка: п'еса напісана, як кажуць, няроўна.

Зала сочыць за падзеямі на сцэне —мы вымушаны мірыцца і з такім Барміным. Зрэшты, хай сабе і не зусім дакладна, але падзеі ён рухае. А тут яшчэ даволі выразны і артыстычна ўдалы персанаж—малады вучоны Юрый Цвяткоў у выкананні М. Кірычэнкі. Ён атрымаўся змястоўным у сваёй дасціпнасці. Маладому акцёру ўдаецца закрануць «патаемныя куткі» душы героя, адкрыць у ім бязмежную любоў да сваёй прафесіі. Цераз перашкоды і рагаткі даводзіцца прайсці Цвяткову, перш чым ён ажыццяўляе сваю мару. Праўда, хоць роля акцёру ў асноўным удалася, трэба звярнуць увагу і на некато-

ніцтвам К. Ціханава і хормайстраў А. Кагадзеева і Г. Луцэвіч перадаюць гэты драматызм і ў патэтычных узнёслых гучаннях, і ў лірыцы асобных эпізодаў. Ансамблі ў спектаклі выконваюць свае творчыя задачы на высокім артыстычным узроўні.

На гэтым фоне, я скажу шчыра, часам губляюцца вельмі істотныя ў музычнай драматургіі лейтматывы асобных персанажаў. Мы добра ўспрымаем песенныя інтанацыі, блізкія да фальклорных узораў і самастойна асэнсаваныя кампазітарам, у вакальных партыях Касцені, Тасі, Насці, Сашкі. Трупа, занятая ў оперы, добрасумленна выконвае і разгорнутыя арыі, і дуэты, і рэчытатывы... Але мастацкія акцэнты ў параўнанні з тым, як іх перадаюць аркестр і хор, выглядаюць менш сакавіта. Калі ж яшчэ дадаць, што М. Аладаў тактоўна выкарыстоўвае сродкі гратэску для характарыстыкі персанажаў з варожага лагера, а выканаўцы роляў Рэйнаў, Штэкера і іх памагатых часам абмяжоўваюцца чыста ілюстрацыйным малюнкам у вакальнай частцы (відаць, і іх спакушае жаданне па-кінематаграфічнаму быць «падобнымі» на шаблонных «ворагаў»). Зноў жа суладдзя паміж музычным напаўненнем вобразаў і іх акцёрскім увасабленнем нестае.

Пэўна, многае тлумачыцца тым, што аўтар лібрэта не меў магчымасці драматургічна ўзбагаціць ролі адначасова з іх музычнай дапрацоўкай. П'еса, якую іграюць акцёры, выглядае больш спрошчанай і нават часам схематычнай у параўнанні з музычнай тканінай твора.

Яшчэ раз скажу: заслугоўвае добрых слоў работа дырыжора К. Ціханава, які ўдумліва, з адчуваннем стылявых асаблівасцей музыкі М. Аладава прачытаў партытуру твора. Праўда, адчуваецца, што па-акцёрску некаторыя салісты адчуваюць сябе на сцэне няёмка. У гэтым вінаваты спрадвечны біч—боязь упусціць з поля зроку «дырыжорскую палачку». Падкрэсленая ўвага да дырыжора не хаваецца ад гледача. Зала адчувае, што выканаўцаў скоўвае і тэкст партый, які вымаўляецца часам не вельмі выразна. Можа, з цягам часу яны больш упэўнена «ўвойдуць у вобразы».

Знайсці адэкватную сцэнічную адпаведнасць канфлікту, увасобленага ў музыцы оперы М. Аладава, насыціць дынамікай яе сцэнічную кампазіцыю ў цэлым — такая была першачарговая задача, якая стаяла перад рэжысёрамі А. Маралёвым і Ю. Ужынцавым. Ёсць у спектаклі і безумоўна ўдала вырашаныя эпізоды. Такія, напрыклад, як сцэна Касцені і Рэйнаў, калі прамень пражэктара на авансцэне асвятляе іх фігуры, спецыяльна набліжаныя да гледача, каб ні адна дэталь не была ўпушчана ў гэтым паядынку, або паводзіны паліцая Прыблынды, якога выдатна сыграў акцёр В. Бруй, здолеўшы стварыць каларытны вобраз другараднага персанажа. Аднак рэжысура не была паслядоўнай і пакінула ў спектаклі эпізоды, непераканаўчыя ў пастановачным і акцёрскім увасабленні. Нецікава вырашаны масавыя сцэны. У оперы іх многа. І па будове, і па драматургічнай функцыі яны вельмі розныя. Некаторыя (напрыклад, у другой дзеі) харавыя эпізоды настолькі статычныя, што тармозяць дзеянне і перашкаджаюць яго развіццю. Гэта тым больш крыўдна, што хор нядрэнна справіўся са складанай у музычным напаўненні партыяй. Фальшывай і зусім ненатуральнай выглядае і першая сцэна ў стане ворагаў. Рэжысёры клапоцяцца не так пра тое, каб паказаць іх па-мастацку пераканаўчымі, як... дурнымі «наогул» і разбэшчанымі. Наіўныя і такія дэталі — Касценя ў цэнтры партызанскага лагера, у моцны снегапад устае на скрынку і глядзіць у бінокль; Прыблында дастае паперку і запісвае, хто прыходзіць да Касцені...

Канечне, тое, што ў рэжысуры гледачы заўважаюць то імкненне да бытавога дарэчнага на драматычнай сцэне праўдападабенства, то да сімволікі опернага размаху робіць відовішча стракатым. А гэта зніжае ўражанне ад музычнага багацця твора. Тут і мастак Я. Чамадураў не стрымаў жадання быць фатаграфічна «рэальным». Мера суадносін чыста оперных прыёмаў пастаноўкі з дэталізацыяй, блізкай да жыццёвай дакладнасці, у «Андрэі Касцені» парушана. Тое, што адрасавана, як кажуць, слыху,—прываблівае, выклікае ўдзячнасць да кампазітара і дырыжора, да артыстаў. Тое, што ўспрымаецца вокам, — не пераконвае. Ці не гэта прычына пэўнай раскіданасці ўвагі залы? Калі тэатр супакоіцца на дасягнутым і не ўнясе ў спектакль змен, якія дапамаглі б «узяць у палон» большасць залы — моладзь! — пастаноўка «Андрэя Касцені» застанецца толькі ў памяці абмежаванага кола меламанаў і прафесіянальных музыкантаў. Твор М. Аладава заслугоўвае большага — ён можа і павінен трывала ўвайсці ў рэпертуар тэатра.

**Галіна КУЛЯШОВА,**
в. а. дацэнта Беларускай кансерваторыі.

---

рую інфантыльнасць яго персанажа (гэта чуеш і ў крыклівых інтанацыях голасу). Хочацца думаць, што гэта часовая з'ява, звязаная з першымі самастойнымі крокамі на сцэне М. Кірычэнкі.

Прывабіла мяне і мяккая, без націску манера ігры Р. Сёмічавай у ролі Вярновай. У Вярновай ёсць дзівосны спакой, імкненне заставацца непрыкметнай, не кідацца ў вочы, і гэтыя яе якасці робяць вобраз кантрастным побач з Цвятковым. Як вучоны яна на брэсцкай сцэне ў многім уступае Барміну і Цвяткову, але яна таленавітая чалавечнасцю і адданасцю людзям навукі. Сітуацыя ролі магла б штурхнуць актрысу на шлях сентыменту,—на шчасце, гэтага не здарылася. Вобраз Вярновай раскрыты на добрым акцёрскім узроўні.

Запомніўся і Юрый Уласаў у ролі генерала Ахоціна. Артысту ўдалося пазбегнуць штампу, які праяўляецца ў акцёраў, як толькі яны апранаюцца ў генеральскі мундзір. У адрозненне ад яго М. Абрамаў, на маю думку, не здолеў падабраць ключы да генерала Зуева. Яму цяжка сабраць у адно рысы, уласцівыя характару даволі яркага ў п'есе чалавека. Атрымліваецца схематычна, ілюстрацыйна...

Кажуць, што сярод тых, каго можна назваць прататыпам вобраза Барміна, быў вядомы на ўвесь свет чалавек—Курчатаў. Калі гэта і праўда, я мушу сказаць, што такога маштабу асобы з усімі яе чалавечымі якасцямі, такой цэласнай і жывой натуры ў спектаклі не адчуваеш. Акцёр С. Яўдошанка робіць усё добрасумленна, трымаецца на сцэне ўпэўнена і паказвае, што ён мог бы сыграць ролю цікавей, калі б рэжысёрам была распрацавана больш змястоўная партытура спектакля.

Калі гаварыць шчыра, мне было сумнавата на спектаклі, бо ў ім няма акцёрскіх узлётаў. Такое ўражанне, быццам яны абыякавыя да гэтага твора. Прафесіянальная абыякавасць ад мяне, таксама артыста, не схавалася пад знешне прыстойным выкананнем рэжысёрскіх задач. Думаю, і глядач заўважае гэта, сочачы больш за фабулай твора і за асобнымі акцёрскімі ўдачамі. Тэатр запрасіў для пастаноўкі «Чалавека і глобуса» спецыяльна Ю. Арынянскага, рэжысёра, які даваў прыклады дасканалай работы на сцэне таго ж камсамольскага тэатра. На гэты раз і ён здаўся мне ардынарным у сваіх вырашэннях задумы твора і вядучых вобразаў.

І афармленне спектакля мастаком А. Марозавым аднастайнае, асабліва ў светлавым вырашэнні — ярка-сіні колер робіць усё, што адбываецца на сцэне, крыху нерэальным, і акцёрам цяжка жыць у гэтай штучнай атмасферы. Выканаўцам яшчэ і цесна — яны ціснуцца па кутках, у той час як цэнтр свабодны і ніяк не выкарыстаны. Многа грыму і парыкоў на артыстах, а гэта робіць спектакль «тэатральным» у дрэнным сэнсе.

Такім чынам, знаёмячыся з гэтай работай, не можаш падзякаваць тэатру за адкрыццё маштабнай тэмы і складаных характараў у напружаным канфлікце вялікага грамадзянскага гучання. Твор распадаецца на асобныя эпізоды, якія калектыў паказвае як нізку ілюстрацый з жыцця вучоных. Мелкавата для драмы!

**Аўгуст МІЛАВАНАЎ,**
артыст Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.

---

ВЕЧНА Ў ПАМЯЦІ

# ЭКІПАЖ МАШЫНЫ БАЯВОЙ...



Яны сфатаграфаваліся вясной 41-га... Злева направа—Канстанцін, Мінай і Аляксей Крычаўцавы.

У фотамайстэрню, якая размяшчалася раней на вуліцы Кірава ў Гомелі, зайшла аднойчы немаладая жанчына. Яна паказала пажаўцелую, пацёртую фатаграфію і сказала, што гэта яе браты-танкісты, якія прапалі без весткі ў першыя дні Вялікай Айчыннай вайны.

З фатаграфіі глядзелі трое маладых хлопцаў у шлемах, скураных куртках. Узнавіць здымак было цяжка, але лепшы партрэтыст - рэстаўратар Вера Мікалаеўна Батурына справілася з задачай.

Заказчыца Алена Георгіеўна Пупкова расказала, што з самага пачатку вайны ні яна, ні яе родныя не атрымалі ні адной вестачкі ад братоў-танкістаў.

Калі фатаграфія была адноўлена, мне пазваніў загадчык майстэрні Аляксандр Лаўрэнцьевіч Шамяткоў, і мы разам, абодва франтавікі-ветэраны, вырашылі пачаць пошук, каб даведацца пра лёс братоў-танкістаў.

Паехалі на радзіму хлопцаў у сяло Урыцкае Гомельскага раёна, дзе многія і зараз добра памятаюць Георгія Трафімавіча Крычаўцава, настаўніка мясцовай школы і садавода-аматара, бацьку танкістаў, іх маці Фёклу Аксенцьеўну. Гэта былі добрыя, працавітыя людзі, якія выхавалі сем сыноў і тры дачкі.

Мінай, Косця і Аляксей — так звалі братоў-танкістаў — вельмі дружылі, разам хадзілі ў школу, захапляліся кнігамі. Яны былі добрымі музыкантамі, ігралі на гармоніку, баяне, балалайцы, гітары. Настаўнікі раілі братам паступіць у музычнае вучылішча. Ды і самі браты так захапіліся музыкай, што гэта ідэя ім спадабалася. Усе трое, праўда, у розны час, былі прыняты ў Гомельскае музычнае вучылішча.

Цяперашні дырэктар вучылішча Мікалай Антонавіч Фалейчык і выкладчык Георгій Іванавіч Шпанькоў вучыліся разам з братамі-танкістамі і добра памятаюць іх.

— Гэта былі здольныя і таленавітыя музыканты, — гаворыць Мікалай Антонавіч. — Памятаю, Мінай паступіў у вучылішча першы, вучыўся на дырыжорска-харавым аддзяленні, Косця — па кантрабасе, а вось Аляксей — не памятаю па якім класе. Вядомы беларускі кампазітар Р. Пукст, які да вайны быў нашым выкладчыкам, высока цаніў музычнае дараванне братоў, часта бываў у іх у гасцях у сяле Урыцкім.

— Усе трое, — працягвае Георгій Іванавіч,— ігралі на баянах, выступалі ў аркестры народных інструментаў, а Косця да таго ж іграў у сімфанічным аркестры. Да гэтага часу ў вучылішчы захоўваюцца ноты, акуратна перапісаныя Косцем для сімфанічнага аркестра, па якіх і зараз займаюцца студэнты вучылішча. Аляксей быў камсоргам курса. Хлопцы яны былі дружныя, таварыскія. Жылі ў інтэрнаце. На ўсіх быў адзін выхадны пінжак. І яго надзяваў той, хто ішоў у кіно, на канцэрт. І ніколі не спрачаліся, не зайздросцілі адзін аднаму.

Памятаю, аднойчы браты паглядзелі новы фільм «Трактарысты». Прыйшлі ў інтэрнат і пачалі спяваць песню з гэтага фільма. Магчыма тады ў іх нарадзілася думка стаць танкістамі.

Пасля адтэрміноўкі на час вучобы Міная і Косцю прызвалі ў Чырвоную Армію.

— Тады, — успамінае іх сястра Вольга Георгіеўна, — бацька напісаў пісьмо ў Наркамат абароны таварышу Варашылаву з просьбай дазволіць тром братам служыць у адным танкавым экіпажы. Просьба была задаволена, і Аляксей, каб увайсці ў экіпаж, добраахвотнікам пайшоў служыць у армію.

— Раслі разам, вучыліся, дружылі, — гаварыў сынам бацька, праводзячы іх,—і служыце добра. А калі пакліча Радзіма, па-геройску змагайцеся з ворагам.

Свята захоўвалі сыны наказ бацькі. Яны сталі выдатнікамі баявой і палітычнай падрыхтоўкі, любімцамі часці, у якой праходзілі службу. Перад вайной усе трое прыехалі на пабыўку дамоў.

— Мы ўсе, і родныя, і аднавяскоўцы, — успамінае Вольга Георгіеўна, — не маглі на іх наглядзецца: статныя, рослыя, у шлемах і куртках, вясёлыя. Дзяўчаты так і заглядаліся. Калі канчаўся водпуск, браты сфатаграфаваліся і пакінулі нам гэту дарагую фатаграфію.

У сяле Красным Гомельскага раёна жыве былы пісар танкавага батальёна, у якім служылі браты, Канстанцін Фёдаравіч Фралоў, цяпер настаўнік мясцовай школы.

— Я добра ведаў Міная, Косцю і Аляксея, — гаворыць Канстанцін Фёдаравіч. — Гэта быў лепшы танкавы экіпаж часці. Браты актыўна ўдзельнічалі ў армейскай самадзейнасці, у вольны ад вучобы і службы час выступалі ў канцэртах.

Перад самай вайной нашу часць перакінулі пад Беласток, на самую граніцу. Мінай быў камандзірам танка, Косця — механікам-вадзіцелем, а Аляксей — стралком-радыстам. Мы ў тыя дні ўвесь час былі напагатове.

У першы ж дзень вайны танкавы батальён паспяшаўся на дапамогу пагранічнікам, якія адбівалі першы націск ворага.

Калі была пададзена каманда: «Падрыхтавацца да бою!», Мінай абняў братоў, пацалаваў іх, моцна, па-мужчынску, паціснуў ім рукі.

Па схіле ў нізіну, па жыце ішлі варожыя танкі, услед за імі транспарцёры з пяхотай. Танкаў было так многа, што Мінай перастаў іх лічыць. Больш як дзве гадзіны мужна змагаліся тады пагранічнікі і танкісты.

Пасля бою рэшткі танкавай часці адышлі на ўсход. А пад гарадком Лапы танкісты навязалі фашыстам бой. Смела пайшоў у атаку і экіпаж братоў. Трапным стрэлам быў падбіты нямецкі танк, але і танк братоў загарэўся. Механік-вадзіцель Косця зрабіў спробу збіць полымя, але гэта яму не ўдалося. Тады ён павёў танк на таран, у фашыста не вытрымалі нервы, і ён ухіліўся ад бою. Тады Косця павёў танк на густыя ланцугі фашысцкай пяхоты, знішчаючы яе агнём і гусеніцамі...

Беглі гады, але паведамлення аб гібелі братоў-танкістаў не было. У Алены Георгіеўны і яе сястры Вольгі Георгіеўны цеплілася надзея, што можа хто-небудзь з братоў застаўся жывы. Але ішоў час, і ніхто не вяртаўся...

Было ясна, што браты загінулі, але дзе, калі? Гэта пытанне хвалявала і нас. У пошук падключыліся і супрацоўнікі тэлебачання, работнікі палітаддзела аблваенкамата і Гомельскага райваенкамата. Пісалі ў Міністэрства абароны. Доўга не было адказу, у міністэрстве таксама правяралі, удакладнялі, высвятлялі. І вось, нарэшце, прыйшоў адказ, у якім паведамлялася, што браты-танкісты Крычаўцавы па-геройску загінулі ў баях з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Паведамленне аб смерці Міная, Косці і Аляксея ўручана іх сястры Пупковай Алене Георгіеўне. Пахаваны браты на беларускай зямлі.

**Р. МАРГОЛІН.**

# ПЕРАМАГАЮЦЬ МОЦНЫЯ ДУХАМ

*Ты нездарма, сорак пяты,*
*Дбала адліты ў медаль!*

Гэтыя радкі ў паэме Марка Смагаровіча «Медаль» гучаць двойчы — у пачатку і ў заключэнні. У іх выказана сутнасць твора. А сам твор — пра шлях аўтара ў ліхую гадзіну вайны.

Так, паэма мае выразна аўтабіяграфічны характар. Пра зведанае, непасрэдна перажытае вядзецца гаворка. Усхваляваная, паэтычная. Весці такую гаворку спакойна, без эмацыянальнага ўзрушэння немагчыма. Інакш яна была б проста фальшывай.

...Калі пачалася Вялікая Айчынная, Марк ледзь паспеў скончыць шэсць класаў. Чатырнаццацігадовы падлетак звязваецца з народнымі мсціўцамі. Праз пэўны час ён — у партызанскім атрадзе імя Чапаева. Былі суровыя баі і паходы, блакады і заўсёдная небяспека нарвацца на варожую кулю.

Партызанскі кулямётчык Марк Смагаровіч знаўся з гэтым праз незлічоныя дні і ночы баявых будняў.

А тут на юнака звалілася невымернае гора: бацька і маці закатаваны ў канцэнтрацыйным лагеры, два старэйшыя браты загінулі на фронце. На адной з баявых аперацый самога Марка цяжка параніла. У выніку былі страчаны абедзьве рукі.

Пацягнуліся доўгія-доўгія шпітальныя гады. Але сіла волі ўзяла сваё, натура перамагла. Ён зноў стаў у строй.

Цяга да літаратуры ў яго заўсёды была. І вось — настойлівасць, упартасць, спалучаныя з прыроднымі здольнасцямі, далі свае вынікі.

Адзін за адным выходзяць з-пад пяра Марка Смагаровіча вершы. Вершы складаюцца ў зборнікі. Іх прыхільна сустракаюць чытачы і крытыкі.

Так прыйшоў у літаратуру паэт-воін Марк Смагаровіч. За параўнальна невялікі час ён выдаў кнігі: «Мой таварыш», «На крыллях песні», «Каля кастра», «Маё выступленне», «Сняжынка», «Крокі», «Жураўліная труба».

Нядаўна выпушчаны выдавецтвам «Беларусь» зборнік «Пачастунак» нам уяўляецца лепшым сярод кніг паэта. Думаецца, справа ў тым, што тут М. Смагаровіч у найбольш удалых рэчах гэтай кнігі напісаў пра тое, пра што не мог не напісаць. Яму не спатрэбіліся літаратурныя асацыяцыі, паэтычная фантазія, — пісаў пра тое, што сам асабіста спазнаў на сваім жыццёвым шляху. Згаданую намі паэму «Медаль» мог стварыць толькі той, хто вайною быў бязлітасна кінуты на ложак у доме з суроваю шыльдаю ля ўваходу «Шпіталь».

Там, у шпітальных палатах, ва ўчарашніх воінаў дзень пры дні «нылі крывавыя раны». Там засмяглыя «губы шапталі: — Вады... Чуліся мыліцаў стукі»... Там у каторы раз было выгукнута: «Бязрукі з ложка зваліўся ізноў!..»

Бязрукі нарэшце пакінуў беласнежныя бальнічныя палаты, шпіталь. За яго парогам вірыла жыццё. Бабіла яно да сябе нястрымна: ты ж сумленна выканаў свой салдацка-чалавечы абавязак, табе — высокая пашана!..

А бязлітасны вецер калашмаціў яго пустыя рукавы, нібы зноў і зноў пытаў: «На што ты цяпер — такі — здатны?..» Ён прысеў на хвіліну адпачыць — і на крысо яго ўпала некалькі манет. Здаўся той звон манет аплявухай...

Радкі паэта, прысвечаныя суровым дням, калі грукатала славутая бітва пад Сталінградам, каля Малахава кургана, дзе «шчэбень церлі танкі ў пудру», дзе ў невядомага салдата пры чарговай варожай танкавай атацы «спрацавала сэрца-міна» і спынілася браніраванае нямецкае страшыдла,—запамінаюцца і хвалююць (балада «На Малахавым кургане»).

На ўсё жыццё застаўся ва ўважлівай памяці юнака той пякельны час. Ён і цяпер, праз многія гады, зноўку і зноўку напамінае аб сабе. І ўсплывае ў па-



Марк Смагаровіч.

мяці тое, як на «жалезцы», быццам змеі, скручваліся рэйкі і «ўзляталі з трэскам рэбры шпал»:

*І праз лес ляцела рэха ў далі,*
*Абвяшчала гібель чужаніц,*
*І героі ў вечнасць адляталі*
*На агністых крыллях бліскавіц.*

(«У сорак трэцім»)

Памяць воіна — бязлітасная, векавечная. Ён ідзе ясным вясновым днём па жытнёвым палетку, любуецца ім. Хораша на душы! А мінулае стукае ў сэрца:

*...Тут жа рваліся снарады,*
*Шугалі выбухаў кусты.*
*Суровы тупат кананады*
*Навечна ў памяці застыў.*
*Цяпер жа мірна за гарою*
*Грукоча трактара матор.*
*І цяжка верыць: полем бою*
*Калісьці гэты быў прастор!*

(«У ясны дзень»)

Памяць трывожыць колішняга франтавіка і ў сне. І сярод ночы трызніцца яму блакада, тванню зарослае балота, апошняя граната, якую ён шпурляе з-за куста. Прачнуўшыся, чуе голас дачушкі:

*— Мама,*
*Крычаў спрасонку бацька зноў!*

(«Мае сны»)

Прыемна адзначыць, што з часам голас М. Смагаровіча ўсё больш мужнее, набіраецца сілы. У паэзіі ўсё важна. Самая нязначная на першы погляд дэталь. Нібыта выпадкова накрэслены штрых. Быццам сказанае між іншым... А колькі сэнсу ў гэтых дэталях!

Воін у вершы М. Смагаровіча «І ўстаў салдат...», цяжка паранены на полі бою, апрытомнеў. Зразумеў: нашы адступілі, ён — у варожым тыле.

*І ўстаў салдат. Абтрос зямельку.*
*Кіёк надзейны — карабін.*

Надзейны кіёк цяжка параненага, але душою не зломленага воіна — карабін, — знаходка паэта.

Народны мсціўца з верша «Партызанская стаянка» прыгадвае час, калі «закладалі міны, а з імі нянавісць і злосць». І зноў жа — хораша, паэтычна сказана.

Вось да гэтай іменна паэтычнай размовы з чытачом і імкнецца Марк Смагаровіч. І не толькі ў вершах на ваенную тэматыку. І ў лірыка-інтымных творах — тое ж імкненне. У лепшых з іх аўтару гэта ўдаецца. Яны вызначаюцца свежасцю, вобразнасцю, самастойным падыходам да тэмы.

Маленькая ілюстрацыя да сказанага — невялічкі верш пра зіму:

*Ажыў сыпучы снег на полі*
*І закружыўся над сялом.*
*І ўжо ўвесь дзень і ноч малолі*
*Завеяў жорны за вуглом.*
*Пасля ўсё сціхла.*
*Ясны ранак.*
*Ні ветру, ні завей няма.*
*Паклаўшы пышны хвост на ганак,*
*Заснула лютая зіма.*

Лірызмам прасякнуты такія вершы М. Смагаровіча, як «Восень», «Лес мой родны», «Яблынька», «Празрыстыя крыніцы».

Вядома, далёка не ўсё, што выйшла з-пад пяра Марка Смагаровіча, варта высокай ацэнкі і заслугоўвае ўхвалы. Было нямала ў часе творчых пошукаў і паэтычных няўдач, былі праходныя рэчы, у якіх ёсць рыфмы і рытмы, але няма паэзіі.

Падобнае напаткаеш там-сям і ў зборніку «Пачастунак». І ў ім аўтар «пачаставаў» чытача скараспелымі, лёгкаважкімі вершамі («Наша вуліца», «...Пасажыр-сусед пагоду лае...», «Развагі»), а таксама альбомнымі вершыкамі: «...Табе да твару дробныя вяснушкі...», «...Лёс бязлітасна часам карае...», «Янтар», «Каўказскія кветкі».

Мабыць, не пашкодзіць папракнуць М. Смагаровіча і за гладкапіс, агульшчыну, якія сяды-тады псуюць асобныя яго рэчы.

Суровыя выпрабаванні моцных духам заўсёды загартоўваюць, робяць нязломнымі. Пра такіх піша Марк Смагаровіч у сваіх творах. Такі і сам іх аўтар — чалавек зайздроснай сілы волі, таленавіты паэт.

**І. КУДРАЎЦАЎ.**

*У ГЭТЫЯ ДНІ ЎСПАМІНАЕЦЦА*

Пятро РУНЕЦ

# НЯВЫКАНАНАЕ ЗАДАННЕ



Здымак 1942 г.

У ТОЙ векапомны год, пасля дэмабілізацыі па раненні, я працаваў у рэдакцыі газеты «Бальшавіцкая сталь» у далёкім сібірскім горадзе Новакузнецку.

Напярэдадні Дня Перамогі — восьмага мая—апоўдні мяне паклікаў рэдактар:

— Я толькі што з гаркома партыі. Бачыў там Старцава, дырэктара буйнейшага саўгаса. Паедзеш да яго і напішаш нарыс пра веснавую сяўбу...

Шчыра кажучы, ехаць не хацелася. Апошнія дні ўсе толькі і чакалі, калі будзе афіцыяльна аб'яўлена аб заканчэнні ваенных дзеянняў. Некаторыя нават спрабавалі вызначыць «дзень перамогі».

Але загад рэдактара—ёсць загад.

Праз паўгадзіны старэнькі дырэктарскі «газік» імчаў нас па роўнай укачанай дарозе ў саўгас «Металург». Старцаў глянуў на мяне і, нібы адгадаўшы мае думкі, вымавіў:

— Праз дзень-другі сеяць пачнём... У мірных умовах... Дарэчы, што новага перадавалі па радыё? Мне сёння не давялося паслухаць...

Цэнтральныя газеты прыходзілі сюды на шостыя суткі, і аб важнейшых надзеях, якія адбываліся ў свеце, жыхары горада даведваліся ці з мясцовай газеты, ці з паведамленняў радыё. І, задаючы такое пытанне, ён, вядома, хацеў пачуць тое запаветнае, чаго чакаў увесь наш народ—вестку аб заканчэнні вайны.

— На жаль, нічога новага раніцай не перадавалі, — адказаў я.—Баі ў Берліне ўсё яшчэ працягваюцца...

Надвячоркам мы прыехалі на цэнтральную сядзібу саўгаса. Яна прытулілася да невысокага ўзгор'я, багатага каменным вугалем, які тут выходзіў амаль на самую паверхню, і жыхары пасёлка ламамі і кіркамі даставалі яго на паліва.

— Гасцініцы ў нас няма, дык пераначуеце ў мяне,—сказаў дырэктар, вылезшы з машыны.—Пайшлі.

Назаўтра я прахапіўся ад моцнага грукату дзвярэй. Не паспеў расплюшчыць вочы, як пачуў усхваляваны голас Старцава:

— Уставай, карэспандэнт, канец вайне!.. Толькі што перадалі па радыё... Немцы капітулявалі. Чуеш?... Безагаворачна... Пойдзем на мітынг... Святкаваць перамогу...

Я хутка падхапіўся, і праз некалькі хвілін мы з дырэктарам бадзёра крочылі да канторы. Калі падышлі, то ўбачылі вялікі натоўп людзей, пераважна жанчын, старых і дзяцей. Маладых мужчын не было—яны ваявалі...

Дырэктар выйшаў наперад, зняў шапку, прыгладзіў рукой пасівелыя валасы і ўрачыста сказаў, адкінуўшы ўсялякія фармальнасці:

— Дарагія таварышы рабочыя і работніцы! Мітынг, прысвечаны заканчэнню вайны і першаму святу Перамогі, лічу адкрытым!

І што тут сталася з людзьмі! Яны закрычалі «ўра!», пачалі абдымацца і цалавацца. На тварах заблішчалі слёзы радасці. Пажылая жанчына адшукала недзе старую скрынку, паднесла да Старцава, паставіла на зямлю і гучна, каб усе чулі, сказала:

— Стань, дырэктар, лепш будзе відаць і чуваць.

Старцаў узлез на скрынку.

— Хто хоча гаварыць?

— Я,—пачуўся голас з натоўпу.

— Калі ласка!

Паднялася старая жанчына з глыбокімі маршчынамі на змарнелым твары.

— Даражэнькія мае, мужчыны і жанчыны! Я ніколі не выступала, а сёння не стрымалася,—дрыжачым голасам загаварыла, акідаючы ўважлівым позіркам натоўп.—У мяне, як вы ведаеце, на вайне загінулі і муж і сын. Старэйшы. Канечне, мужа і сына не ўваскрэсіш. І ўсё-такі я вельмі рада, бо не будуць больш паміраць нашы салдацікі, не будуць плакаць па іх маткі, не будзе новых сірот і ўдоў. А жывыя вернуцца, і мы сустрэнем іх, нашых слаўных пераможцаў. Вельмі ўжо многа пралілі мы слёз, і крыві, каб не радавацца гэткай навіне. Няхай жыве наша перамога на векі вечныя!

Пасля яе выступалі іншыя жанчыны і мужчыны.

Калі канчаўся мітынг, з пошты прыйшоў пасланец і сказаў, што мяне выклікае рэдакцыя. Няўжо патрэбен нарыс? Я паспяшаўся на пошту. Маладзенькая тэлефаністка, убачыўшы мяне, хуценька спытала:

— Вы карэспандэнт? Зараз будзеце гаварыць з горадам. Адну хвілінку.

Неўзабаве яна падала мне трубку. Я пачуў голас рэдактара:

— Зараз жа прыязджай у рэдакцыю... Свята Перамогі адзначаць...

— А як жа з заданнем? Я ж не паспеў выканаць...

— Ну, асноўнае заданне.... Радзімы мы выканалі з гонарам... А гэтае пасля выканаеш... Прыязджай.. Такое бывае раз у жыцці... Зразумела?..

Праз некалькі мінут я, Старцаў і дзесяткі два рабочых спяшаліся ў горад, каб адсвяткаваць гістарычны Дзень Перамогі.

Мы прыехалі ў горад у той момант, калі людское мора затапіла ўсе цэнтральныя вуліцы і плошчу перад заводакіраўніцтвам. Над галовамі людзей, як казачныя жар-птушкі, палымнелі чырвоныя сцягі, транспаранты, лозунгі, партрэты кіраўнікоў партыі і ўрада, знатных людзей краіны, герояў-франтавікоў, мясцовых ударнікаў працы. Усюды песні, смех. Кузнецкія металургі, вугальшчыкі, транспартнікі, рабочыя іншых заводаў і фабрык, саўгасаў і калгаснікі бліжэйшых сёл—усе, хто варыў сталь і здабываў вугаль, рабіў зброю і боепрыпасы, дастаўляў грузы на фронт і лячыў параненых, хто вырошчваў хлеб і гадаваў жывёлу, выйшлі на вуліцу.

Да позняй ночы шумеў і радаваўся сібірскі горад, які ўнёс немалую долю ў агульную барацьбу народа з каварным і моцным ворагам.

...З таго часу прайшло дваццаць пяць гадоў. І цяпер, калі я на лістку календара бачу чырвоныя словы «Свята Перамогі», то мімаволі ўспамінаю далёкі сібірскі саўгас, залітыя сонечным святлом вуліцы Новакузнецка, радасныя твары людзей, чую словы старой работніцы з саўгаса.

## ВЕЧНА Ў ПАМЯЦІ

**Учора ў памяшканні Дзяржаўнага мастацкага музея БССР адкрылася рэспубліканская выстаўка, прысвечаная 25-годдзю з дня Перамогі.**

**Экспазіцыя выстаўкі ў асноўным рэтраспектыўная. У яе ўвайшлі лепшыя работы беларускіх майстроў выяўленчага мастацтва, прысвечаныя неўміручаму подзвігу народа-пераможцы.**

**Але ёсць на выстаўцы і новыя работы, яшчэ невядомыя гледачам. Дзве з іх мы прапануем вашай увазе.**



У. ШПАРТАЎ. Асобае заданне.



В. ЯРМОЛЕНКА. У родных месцах.

ЦЯПЕР, Якуб Гапеевіч, ты ў нас начальнік калгаснага музея. Дырэктар!— сказаў старшыня і, падышоўшы да старога, уручыў яму дакумент аб прызначэнні на новую, яшчэ рэдкасную ў тутэйшых мясцінах пасаду.

Якуб Юрша яшчэ доўга стаяў на месцы, як бы мысленна прымаючы прысягу на верную службу, але не ўтрымаўся і на гэты раз:

— Ну, а шыферу, старшыня, мне дадзіце? Усе ўжо абшыферыліся, а я што, лысы хіба?

— Дарагі наш Якубе, ды мы хоць пяцьдзесят лістоў табе далі б,—даводзіў старшыня.—Але хата твая асаблівая. Будзем трымаць яе пад страхою,—такой, як ты пабудаваў яе і збярог для будучыні. Памятаеш, хто першы назваў яе музеем і загадаў паставіць на тваём двары гармату? У сорак чацвёртым, летам?

— А як жа,—левае вока старога прыжмурылася, і неяк адразу азарыўся яго маршчакаваты твар.—Сам камісар брыгады.

— От бачыш. А распараджэнне камісара я скасаваць не маю права. Камісар глядзеў далёка наперад. Так што, брат, пра шыфер і размовы ніякай.—І тут жа звярнуўся з усмешкай да Сцепаніды, вучотчыцы.—Скажы шафёру, каб адвёз Якуба дамоў. Ён цяпер у нас начальнік, і можа важнейшы, чым я...

...Так у дакладнасці і быў створаны музей у вёсцы Жарцы, адным з цэнтраў былой шырокай партызанскай зоны. Я ведаў гэтую вёску да вайны, бегаў туды да сваіх аднакласнікаў, любаваўся строгім уборам яе ліпавых алей і навакольных гаёў. Разам з хлапчукамі лавіў ракаў у Абалянцы—і днём і ўначы. Днём—брэднем-таптуном, а ўначы—на каламазь. Каламазь бралі з бочкі на калгасным двары, потым спяшаліся на круты бераг рэчкі, падпальвалі «гаручае» і цярпліва чакалі. Ракі прачыналіся, вылазілі з-пад карчоў і глыбіні і, лена варушачы клешнямі, паўзлі па чыстым пяску на бераг, на святло. А мы, стоячы па калені ў вадзе, хапалі іх за панцырныя шурпатыя спіны і кідалі ў торбы... Бачыў я Жарцы і летам сорак чацвёртага. Нічога не засталося. На былых дварах сіроча стаялі толькі апаласканыя дажджамі печы з комінамі, ва ўсёй сваёй якасці паланіў усё быльнёг. А пакалечаныя дрэвы, як бы просячы аб дапамозе, працягвалі людзям сваё абгарэлае вецце...

І вось я зноў у Жарцах. Трымаю кірунак да гістарычнага доміка. На ганку яго мяне сустракае бялявая дзяўчынка-піянерка ў новенькім чырвоным гальштуку. Звонкім голасам яна крычыць у расчыненае акно:

— Экскурсанты, дзядуля!

На ганак выходзіць сам гаспадар. У праўленні мне сказалі, што Якубу амаль ужо семдзесят, але стары бадзёры. І поціск рукі яго моцны, а ў вачах агеньчыкі дабрыні, жыццялюбства. Вусы і сівая акладзістая барада надавалі яму самавітасці, але не маглі схаваць маладжавай усмешкі на крыху скуластым і смуглявым твары.

— Таксама з журналістаў? — прыжмурыўшы, відаць, па звычцы левае вока, ён спытаў у мяне.

— А чаму вы так думаеце?

— Не думаю, а ведаю. Усе вы цяпер з аўтаматамі-ручкамі ды вось з гэтымі наводамі,—і Якуб Гапеевіч, пагладжваючы пяцярнёй бараду ад задавальнення, што ён добра ведае пароду газетчыкаў, шчыра рассмяяўся.—Усё наводзіце, здымаеце, спяшаецеся зазняць, быццам вам веку не хопіць.

— Які век—такі і чалавек,—адказаў я жартам і выняў з чахла фотаапарат.—Ну, расказвайце, Якуб Гапеевіч, як гэта вам немцы дапамаглі стаць начальнікам?

— А тут, нябожа, і задоўга да немцаў дзялоў было. Самога французскага генерала Леграна нашы мужыкі ў дванаццатым, пры Напалеоне, у бегства павярнулі.

— Ого!—нясмела заўважыў я і пайшоў услед за Якубам у хаціну.




— Яшчэ б! Ваяваць мы навучаны. І дакументы на гэты конт у нас захоўваюцца. Падыдзем вось да гэтага стэнда...

Якуб Гапеевіч проста з парога пашкандыбаў, грукаючы па падлозе падкаванай дзеравяшкай (правай нагі ў яго па калена не было), падышоў да кніжнай шафы і дастаў з яе невялікую ў цёмна-сіняй вокладцы кніжку:

— Вось тут расказана, як нашы жарчане прыкурыць французам давалі. І нават афіцар'ё іхняе на той свет пускалі. Калі ласка, — і, адкрыўшы закладзеную паперкай старонку, Якуб працягваў:—Вось. У рапарце генерала Уластава вышэйшаму начальству ад 8 верасня 1812 года сказана: «Французскі генерал Легран рабіў рэкагнасцыроўку ад рэчкі Палоты да Дзівы цераз пасты свае з адным батальёнам пяхоты і эскадронам кавалерыі. Падыходзячы да вёскі Жарцы, хацеў оную заняць, але жыхары той вёскі, рускія мужыкі, даведаўшыся аб набліжэнні непрыяцеля... кінуліся ў лес і... сустрэлі яго з ружэйным агнём, ад чаго непрыяцель адмовіўся ад намеру свайго заняць тую вёску і абышоў яе збоку. Тады храбрыя рускія мужыкі кінуліся ўслед за ім і безупынку трывожылі яго. прычым, некалькі чалавек забілі і паранілі, і паміж імі аднаго афіцэра...»

— Вось, брат,—сказаў ён, уздыхнуўшы,—як яно было. І тады ў крыві нашай жыла адменная любоў і вернасць сваёй Айчыне. А цяпер тым болей... Шкада толькі, што генерал мужыкоў па імёнах не назваў. От быў бы дакумент! А цяпер паспрабуй, аднаві, мой гэта быў прапрадзед ці чый яшчэ?..

— Гэта верна,—пагадзіўся я з Якубам і паставіў кніжку ў шафе на месца.—У мяне Якуб Гапеевіч такое заданне... Рэдакцыі абласной газеты патрэбны матэрыял «Подзвігу—чвэртка веку». Вось я і прыехаў сюды.

— Ге,—махнуў рукою стары.—Пра гэта ўжо пісана-перапісана. ужо і дошка на маім доме вісіць. Чытаў пры ўваходзе?

— Чытаў. Харошая дошка, мармуровая...

— Залатая,—па-свойму ацаніў яе Якуб.—Сам сакратар райкома званіў у абласную кантору, каб золатам яе...

— Я, ведаю, хачу, каб нарыс быў з фотаздымкамі, ажывіць трэба ваш подзвіг і падаць яго, так сказаць, псіхалагічна танчэй... Як яно ўсё было? Што вы адчувалі, калі прыкончылі таго гестапаўца?

Якуб, стоячы пасярод хаты, усміхнуўся і, расчэсваючы пяцярнёй бараду, сказаў:

— Адчуваў я найвялікшую асалоду. Вось і ўся тут псіхалогія... А што было, то было...

Мы выйшлі на двор. Уселіся на адной з лавачак ля ганка, і я зрабіў некалькі запісаў.

— З чаго ўсё ж гэта пачалося?

— З таго, што добрыя, смелыя людзі пазвалі нас у лес, у партызаны. Ну і я пайшоў разам са старой. Не маглі ж мы сядзець дома, калі два нашы сыны загінулі ад рук катаў, а трэці на фронце.

Я згарнуў блакнот і стаў уважліва слухаць старога партызана.

— Камісар атрада, потым ён стаў і брыгадным камісарам, паслаў мяне ў разведку,—працягваў свой расказ Якуб.—Ну, і хадзіў я, выгледжваў чужынцаў, паліцаяў. Цэлі пастаўляў, як жартавалі хлопцы... І вось дачуўся я неяк, што фашысты на маю вёску наляцець збіраюцца. Далажыў начальству, камісар і кажа: «Ідзі, разведай і без сувеніра не вяртайся. Ды каб ён што падаражэй быў...» Выйшаў я з лесу на поле—вёска як на далоні. Сонца ўжо так асела, што цень мой крокаў на пятнаццаць перада мной гойдаецца. І хоць бы які гук—ціха вакол, толькі камары над галавою звіняць. Апусціўся я на калені і вухам да зямлі. Зямля ж, яна ўсё чуе. І тут як бы пабеглі па мне мурашкі: пачуў гул матораў—і грузавікі, і танкі... Падаўся я да вёскі паўзком, а неўзабаве ў мяне аж у вушшу закалола: затрашчалі аўтаматы, і ўбачыў я, як шуганулі ў неба клубы чорнага дыму. Дапоўз да сваёй хаціны і думаю, калі і паміраць давядзецца, дык на сваім парозе. А вёска ўжо, бачу, гарыць, у трох месцах шугае. Спаліць яны надумаліся Жарцы, тут і сляпому відно. Перабягаюць карнікі з факеламі ад хаты да хаты, як у забаўкі гуляюць. Ну, думаю, не здамся. І хаты сваёй не аддам агню. І тут бачу: ляціць па вуліцы да майго селішча паганец. Здаровы, жаўтабровы, ва ўсім фашысцкім уборы з крыжамі на грудзях, а ў руцэ факел палае. Страляць у яго не стаў—яшчэ прамахнуся, думаю. І скок па лесвіцы на застрэшак, дзе ў мяне заўсёды гарбузы даспявалі, каб адтуль, значыць, яму на галаву... Сілы ў мяне яшчэ хапала, ды і пісталет за поясам. Але тут я падумаў: а што, калі ён дужэйшы? І якраз мне на вочы каса. У падстрэшку. Дзе яна заўсёды вісела. Хапіў яе, прынік да страхі, і калі той аказаўся пада мной, пад хатай, я і джыгануў яго. Не ўтрымаўся на застрэшку і я: каса, калі ёю махнуў, пацягнула ўніз, і я шухнуў кулем на зямлю, проста на немца. Але ён ужо нічога не чуў... Так вось і засталася цэлай мая хата. Карнікі паехалі тады нанач у свой гарнізон, а я адцягнуў фашыста ў канаву, ноччу вярнуўся ў атрад і расказаў, што бачыў. І сувенір перадаў камісару—немцавы крыжы, ордэны і ў дадатак каску. Вунь яны, як новенькія, побач з касой вісяць!..

(Заканчэнне на 12-й стар.).

# ПОДЗВІГ НАРОДА-ВОІНА БЕССМЯРОТНЫ

*Пісьменніцкая нарада ў Кішынёве*

Напярэдадні Першамая ў Кішынёве праходзіла рэгіянальная нарада пісьменнікаў Масквы, Украіны, Беларусі і Малдавіі, прысвечаная 25-годдзю Перамогі над гітлераўскай Германіяй. У яе рабоце прынялі ўдзел прадстаўнікі Кіеўскага, Адэскага і Прыкарпацкага ваенных акругоў, Кішынёўскага гарнізона, рэдактары шэрагу ваенных газет і часопісаў, дырэктары выдавецтваў.

З асноўным дакладам «Подзвіг савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне і мастацкая літаратура» выступіў намеснік старшыні Цэнтральнай камісіі па ваенна-мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў СССР Мацвей Кручкін. Ён адзначыў, што ў гады Вялікай Айчыннай вайны каля тысячы пісьменнікаў былі на фронце. Іх палымянае слова з першых дзён вайны стала ў рад побач са штыком, клікала да перамогі.

Садаклады аб развіцці ваенна-патрыятычнай літаратуры ў рэспубліках зрабілі пісьменнікі Герой Савецкага Саюза Юрый Збанацкі (Украіна), Сіміён Чыбатару (Малдавія) і Павел Кавалёў ад Беларусі.

Павел Кавалёў, у прыватнасці, падкрэсліў, што само гісторыка-геаграфічнае становішча нашай рэспублікі заўсёды клікала да ваенна-патрыятычнай тэмы. Наш край здаўна быў арэнай жорсткіх бітваў. Беларусь адна з першых трапіла пад нашэсце гітлераўцаў у гады Вялікай Айчыннай вайны. На яе зямлі палымнеў нябачны па сіле і размаху партызанскі рух і падпольная барацьба патрыётаў. Менавіта гэта і вызначыла тэму творчасці многіх і многіх пісьменнікаў нашай рэспублікі.

Шырокая гаворка, якая разгарнулася вакол даклада і садакладаў датычылася розных канкрэтных аспектаў асвятлення ў літаратуры тэмы вайны, міру, жыцця і воінскай доблесці савецкіх воінаў у мірны час.

У спрэчках выступілі рэдактар часопіса «Радуга» Віктар Кандраценка (Кіеў), украінскі літаратуразнаўца Дзмітрый Шлапак, ваеннаслужачы Мікалай Панфёраў (Адэская ваенная акруга), пісьменнік Петра Кручанюк (Малдавія), дырэктар выдавецтва ДАСААФ Мікалай Афанасьеў, міністр унутраных спраў Малдаўскай ССР Н. М. Брадулаў і іншыя.

Тэма вайны, воінскага патрыятычнага подзвігу народа—невычэрпная і шматгранная, як само жыццё. Гэта думка прагучала ў выступленнях многіх удзельнікаў нарады, у выступленнях прадстаўнікоў беларускай дэлегацыі: генерала ў адстаўцы Мікалая Аляксеева, драматурга і крытыка Алеся Кучара, ваеннага журналіста Мікалая Аляксанава, пісьменнікаў Мікалая Кругавых і Алеся Ставера.

Удзельнікі нарады ўсклалі вянкі на Ваенных могілках у Кішынёве. Жалобнай хвілінай ля Вечнага агню яны ўшанавалі памяць тых, хто ў суровыя гады вайны аддаў жыццё за шчасце і незалежнасць Радзімы. А ўвечары заключнага дня работы нарады пабывалі на прадпрыемствах горада, сустракаліся са студэнтамі Кішынёўскага універсітэта імя У. І. Леніна і хлебаробамі Малдавіі.

Г. ШЫЛОВІЧ.

ЭКСПАНУЕЦЦА Ў «ЛіМе»

# «МАСКІ ЛЯПІЛІ І ФАРБАВАЛІ...»



Юныя аўтары масак пабывалі ў нас у рэдакцыі. Прывёў іх кіраўнік гуртка Рыгор Несцераў (першы злева).

Скачок Іра — 2-гі кл., Гугель Таня — 1-шы кл., Туравец Вова — 3-ці кл., Кузняцова Іра — 5-ы кл., Зубкевіч Таня—3-ці кл., Мурашка Лёня—3-ці кл., Сакалоў Вова—1-шы кл. і яшчэ 14 дзяцей былі гаспадарамі гэтай выстаўкі масак. А мы, супрацоўнікі газеты, — яе першымі наведвальнікамі. Маленькія мастакі зачаравалі нас, узялі ў палон эксцэнтрычнасцю, эмацыянальнасцю, смелым спалучэннем фарбаў. Мы глядзелі на кожную маску, створаную іх рукамі, як на маленькі цуд, на дзёрзкую спробу адкрыцця чалавечага характару. Мы адразу забыліся, што любім пабурчаць, не прымаць, адвяргаць. Зноў, як ужо сотні разоў, яны здзівілі нас уменнем бачыць смешнае і драматычнае ў жыцці, уменнем абагульняць і падкрэсліваць галоўнае.

У маленькім пакоі аддзела выяўленчага мастацтва мы з задавальненнем адпачывалі ад спраў, якія ніколі не канчаюцца, і з задавальненнем «акуналіся» ў тую казачную і тую рэальную краіну масактыпаў. Іншы раз з рогатам, а іншы — на поўным сур'ёзе і нават з засмучэннем знаходзілі сярод іх і сваіх знаёмых і саміх сябе.

Што ні маска, то вобраз! Вось бюракрат і падхалім глядзіць на нас выпучанымі, як у жабы, вачыма. А твар у бюракрата непрыгожы, чорны. Канечне, Саша Кавалёў і не думаў пра бюракрата і падхаліма — яму яшчэ, напэўна, не даводзілася з такімі мець справы. Але пільнае вока яго «ўхапіла», што такія—кропля ў кроплю,— твары бываюць. Гэта адтуль, з сярэдзіны, ён чорны, і адтуль, з сярэдзіны, ён вытрэшчвае свой хітры, нахабны погляд.

А Юра Маёраў стварыў маску чалавека сучаснага, крышачку іранічнага, крышачку дзёрзкага, смелага і вясёлага. Глядзіць маска адным ясным чырвоным вокам, а другі прыжмурыла — яно ў яе завітком.

Выстаўка дарослым вельмі спадабалася. А мне ўсё хацелася праверыць свае ўражанні на дзецях. Але дзеці ў нашай рэдакцыі — рэдкія госці. І ўсё ж такі выпадак прадставіўся. Забрылі неяк. Шукалі макулатуру.

— Ну як! — вельмі няпэўна запыталася я ў іх, адчыняючы дзверы, за якімі крычалі і гарэлі ўсімі фарбамі жыцця маскі.

— Як жывыя, — вычарпальна і вельмі дакладна адказаў хлапчук, раскручваючы сетку-авоську.

— Угу, — пацвердзіў другі і асцярожна дакрануўся да маскі, быццам жадаючы пераканацца, што яны на самай справе «як жывыя».

І пайшлі.

Глядзяць маскі са сцен вачыма сумнымі і добрымі, сур'ёзнымі і насмешлівымі, гарэзнымі і ўстрывожанымі.

Дзеці твораць цуд, а называецца гэта будзённа і проста: «Маскі ляпілі і фарбавалі Аля Халаленка, Лена Васюкова, Саша Кавалёў», — прачыталі мы на адной з іх.

З кіраўніком гэтых таленавітых хлапчукоў і дзяўчынак мне не давялося пагаварыць. Я ведаю толькі, што завуць яго Грыша, а прозвішча —Несцераў. Сустракаюцца яны ў гуртку пры доме кіраўніцтва № 1 Беларускай чыгункі. І мне не цяжка ўявіць Рыгора Несцерава і ўбачыць, як ён усміхаецца і, крышачку прыжмурыўшы вока, асцярожна вядзе дзяцей у свет вялікі і цудоўны.

І. ПІСЬМЕННАЯ.

(Заканчэнне. Пачатак на 11-й стар.)

# НЕАПЛАТНЫ РАХУНАК

Я зразумеў, што мне без такога здымка нельга вярнуцца ў рэдакцыю, і сфатаграфаваў гэты стэнд.

— Гэта рэдкасны кадр,—сказаў я.—А ці нельга вас зняць каля залатой дошкі і гарматы?

— А чаго ж ?—Якуб Гапеевіч апёрся на сваю дзеравяшку, і рамяні зарыпелі на ўвесь музей.—Калі трэба, дык трэба.

Мы выйшлі на двор, на яркае і гарачае жнівеньскае сонца.

— А канавы той ужо даўно няма. Нехта яшчэ тады засыпаў немца зямлёй, так ён і знайшоў у мяне заўсёдную прыпіску. Звалі яго Фрыдрых Зупель, а родам быў з горада Мюнхена.

— Адкуль гэта ведаеце?

— Усё стала вядома потым,—працягваў стары, пазіраючы на вузкі загончык высокіх канапель, якія варушыліся сваімі макаўкамі-мяцёлкамі.—Гады тры назад я ўскопваў гарод, капнуў рыдлёўкай—бачу, трубачка іржавая. Я за яе і ў праўленне. Адкрылі, а ў ёй адрас і сапраўднае імя гітлераўца. Потым яно ў газету папала, у раённую, Сцёпка, мая пляменніца, пастаралася... Ды так пастарался, што гэта ўсё нейкім чынам дайшло аж да Мюнхена. Паслухай ты, што далей было!...—І Якуб Гапеевіч падрабязна ўсё падаў, як летась, ужо ў канцы лета, заявіліся ў Жырцы мюнхенскія госці...

...Гэтую навіну першай прынесла ўсё тая ж племянніца Сцёпка. Прымчалася на веласіпедзе і проста з сядла затараторыла:

— Вой, дзядзечка, немцы да нас прыехалі! З Мюнхена. Такія паважныя і нейкія злосныя. Кажуць, у музей ім трэба, і прозвішча ваша назвалі... Старшыня там гаворыць з імі, а мне міргнуў, каб я вас папярэдзіла...

Якуб выслухаў усё і ўсміхнуўся:

— Як жа мне прымаць іх загадаеш?

— А як знаеце... проста, па-партызанску...

І не паспела Сцёпка растлумачыць, што значыць, «па-партызанску», як на вуліцы, плаўна пагойдваючыся, паказаўся чорны прыземісты «мерсэдэс». Абмінуўшы па дарозе два высокія вазы з сенам, ён спеўна пралудзіў ім і скіраваў да веснічак хаты-музея.

З легкавіка першы вылез Кузьма Грынчак, старшыня калгаса, затым выйшлі двое пажылых людзей, год па пяцьдзесят, апранутыя ва ўсё чорнае—мужчына і жанчына.

Старшыня пазнаёміў:

— Якуб Юрша. Былы партызан, цяпер загадвае вясковым музеем. А гэта госці-турысты з Заходняй Германіі, Эрых Зупель і яго жонка Марта...

Якуб Гапеевіч на хвіліну разгубіўся і, як заўсёды ў такіх выпадках, пагладзіў бараду, паправіў рамень, ільняную кашулю з вышытым каўняром і назваў сам сваё імя, да таго ж дадаў, што ён кавалер ордэнаў Айчыннай вайны першай ступені і Чырвонай Зоркі і двух медаляў «За адвагу».

Марта разумела па-руску; яна з павагай глядзела на старога, што ў яго столькі высокіх узнагарод, какетліва ўсміхалася яму намаляванымі губкамі і азвалася першай:

— У нас вялікая просьба да вас...

Але яе тут жа перапыніў муж:

— Не, не, Марта. Гэта потым... Мы хочам спачатку паглядзець ваш музей...

— А вы, выпадкова,—звярнуўся да госця Якуб Гапеевіч,—у вайну не былі ў Беларусі?

— Найн... Я варыў піва. Наш горад дзелайт многа піва. Маё піва пілі тады ўсе—рабочыя, бюргеры, афіцэры остэн унд вестэн фронт...

— А на остэн, напэўна, быў ваш брат?—нечакана спытаў стары.

— Так. Але гэта потым... — Адчувалася, што немцу падабалася гэта слова «потым», і ён вымаўляў яго без ніякага акцэнту.—Трэба паглядзець музей...

У музеі турысты, як немцы назвалі сябе ў праўленні калгаса, ля стэндаў доўга не затрымліваліся. Марта часта ўключала кінакамеру і амаль несціханае жужэнне яе было не вельмі прыемным. Па просьбе мужа немка некалькі разоў наводзіла камеру на крыжы і каску, якія віселі на сцяне побач з сялянскай касой.

Калі Марта закончыла здымкі, яе муж звярнуўся да Якуба Гапеевіча.

— Вы ёсць начальнік калгасны музеум, я гэта ведаю. У вас ёсць персаналь кабінет?

— Няма,—адказаў Якуб.— Усе пакоі дома заняты музеем. У маім карыстанні адна бакавушка. А кабінет у мяне на вуліцы, пад павеццю, дзе стаіць гармата. Там ёсць лавачка, столік і кніга для водгукаў...

— О,—усклікнуў турыст.—Гэта вельмі прыемна. Я хачу бачыць гэту гармату. І напісаць сваё мненне...

— Бітэ, містэр Зупель,—зусім не без гордасці адчаканіў па-нямецку былы партызан і першым выйшаў з музея.

— Вы поняль нас,—гаварыў яму немец, ступаючы ззаду.—У вашых э-э... Жарцах... Я правільна сказаў? Загінуў у вайну мой родны брат... Ён быў тады малады, глупства, пайшоў цузамен, гэта ёсць разам... разам з Гітлер... Потым шкадаваў... Вось яго пісьмо з Беларусі... Ён прасіў бацьку і мяне вярнуць яго ў Мюнхен. Але Гітлер...

— Ага,—паківаў галавою Якуб,—сказаў:ваюй!.. Не веру я такім пісьмам. Гітлер вас шмат чаму навучыў—і як падрабляць паперы, і як касаваць дагаворы... Ваш брат прыйшоў да нас у сорак першым і тры гады паліў нашы гарады і сёлы, забіваў жанчын, старых і дзяцей. Пакуль я яго не прыкончыў вось гэтымі рукамі...

— О, гэта я знаю... Мне сказала пра вас нямецкая разведка.., Я ўсё разумею,—блытаўся і лепятаў Эрых Зупель.—Але гэта было ўсё так даўно, так даўно...

Яго жонка, Марта, панікла, сядзела на калодцы ля ганка, слухала гэту размову, і раптам яна пахіснулася і, напэўна, упала б, калі б Якуб Гапеевіч не ўтрымаў яе за плячо.

— Вам кепска, фраў Зупель?—спытаў ён.—Можа вам вады...

— Не, не трэба...—пачала яна тужліва і стомлена.—Камрад... Юрша, спадзяюся, нас зразумее... Мы хочам перавезці астанкі Фрыдрыха на свае могілкі ў Мюнхен... Бацька скора памрэ. Гэта яго апошняя просьба. Завяшчанне, як кажуць, рускія.

Пачуўшы гэта Якуб Гапеевіч моцна ўздрыгнуў, быццам у яго пусцілі электрычны ток, але ён стрымаў сябе і толькі ціха і адмоўна паматаў галавой.

— Не,—немка зразумела яго па-свойму.—Вы не бойцеся, у нас ёсць дакумент... Мы прывезлі з сабой невялікую труну... І колькі гэта каштаваць будзе, мы заплоцім, рублямі ці доларамі...

Зупель моўчкі і, здаецца, унутрана спакойна сачыў за гэтай размовай.

— Добра, так і быць,—нарэшце пагадзіўся Юрша і рыпнуў рамянямі пратэза, узняўшыся з калоды.—Аддам, пры адной умове... Нясіце сюды труну...

Таўстун Зупель, уздыхнуўшы з палёгкай, адразу ажыў духам. Ён жвава пабег да сваёй машыны, выцягнуў з багажніка каля метра даўжынёй новую па форме труны—ацынкаваную скрыню, і прынёс яе на двор.

Стары партызан, пахмура паназіраўшы за ўвішнасцю немца, які цяпер стаяў ля скрыні і, чакаючы, што будзе далей, аціраў хусцінкай успатнелы твар, звярнуўся да немкі:

— Вось што, паважаная фраў... Вы чамусьці, калі здымалі, абышлі адзін стэнд. Проста не заўважылі яго. А на гэтым стэндзе запісаны імёны ста трыццаці шасці жыхароў нашай вёскі, якія загінулі ад фашысцкіх вылюдкаў. Сярод іх — сто дваццаць тры фотакарткі, і там мая жонка і тры нашыя сыны. Дзе магілы сыноў маіх—я не ведаю... Сфатаграфуйце, калі ласка, гэты стэнд...

Фраў была гатова выканаць любую просьбу, і яна падхапілася з месца.

— Прабачце, пане Юрша... Я, здаецца, здымала, але я гатова яшчэ раз сфатаграфаваць... — і яна, трымаючы перад сабой назгатове кінакамеру, пабегла ў музей.

А Якуб Гапеевіч павярнуўся тым часам да Зупеля.

— Вы, вядома, не ведаеце, дзе магіла вашага брата... Яна блізка, нават адсюль добра відаць... Вунь у агародзе лапінка канапель. Добрыя каноплі!.. Я заўсёды там іх сею, і кожны год растуць... Што ж, няхай хоць так расплачваецца ваш родны брат...

Немец змрочна апусціў вочы. Ён добра разумеў, куды і чаго ехаў, што яму тут, у «беларускіх джунглях», як пісаў у пісьмах, і сёння не будзе ніякай паблажкі, але дзеля зусім састарэлага бацькі ён гатовы быў пайсці на ўсё і пайшоў. Яму стала моташна. Сарваўшы з сябе шаўковы гальштук, ён расшпіліў верхні гузік на белай нейлонавай кашулі і, расціраючы далонню грудзі, крыкнуў жонцы, якая ўжо выходзіла з музея:

— Куды нас паслаў бацька! Чаго мы прыехалі?!..

Фраў спатыкнулася на прыступках ганка і выпусціла з рук кінакамеру.

— Што з табой, Эрых?—спалохана спытала яна.—Яны не аддаюць твайго брата?.. Няхай яны запоўняць труну...

— Навошта ён нам патрэбен такі — істэрычна крыкнуў Зупель.—Ты паглядзі, Марта... вунь яго магіла! Фрыдрых—гэта ўжо звычайныя рускія каноплі, а не брат. З яе будуць тут віць вяроўкі, вязаць сеткі...—Вочы немца памутнелі, налілся крывёй, і ён, заплакаўшы наўзрыд, апусціўся на века труны.

Фраў не чакала такога павароту падзей і, як жанчына прадпрыймальная, паспрабавала змяніць іх у сваю карысць.

— Пан начальнік,—са смуткам у голасе яна пачала ўпрошваць Якуба Гапеевіча.—Эрых зусім хворы, у яго слабыя нервы... Прашу вас, зрабіце, калі ласка... Мы за ўсё заплацім... І прыязджайце да нас у госці. Вас ніхто не пакрыўдзіць...

— Дзякую за запрашэнне,—холадна адказаў стары.—Толькі вы не хвалюйцеся, фраў. Нам нічога вашага не трэба... А хто мне верне маіх сыноў? Яны не нападалі на вас, яны абаранялі свабоду, зямлю сваю, права на жыццё... А хто мне верне нагу?—і ён пастукаў аб зямлю дзеравяшкай.—Так што перадайце, фраў, здымкі маіх сыноў і ўсіх нашых загінуўшых жыхароў свайму свёкру. А на развітанне вам з мужам я зраблю падарунак...

Якуб Гапеевіч крута павярнуўся на драўлянай назе і размашыста пачыкіляў праз двор у гарод.

З труны ўзняўся Зупель. Праціраючы вочы, ён уважліва сачыў за Юршам, а той, ужо зайшоўшы ў каноплі, расхінаў іх і вырываў самыя рослыя сцяблiны.

— Айн, цвай, драй,—разгублена і недаўменна падлічваў немец і пазіраў на Юршу вялікімі вачыма.—Каноплі?.. Навошта нам гэтыя каноплі?..

А стары партызан, вярнуўшыся з гарода, на момант застыў перад Зупелем у змрочнай строгай паставе.

— Раз, два,—адлічыў ён і працягнуў немцу дзве сцяблiны канапель.—Гэта вам і бацьку... На памяць аб мінулым і будучым. А трэцяя—нам. І Якуб перадаў астатнюю сцяблiну сваёй пляменніцы.—Пастаў, Сцепаніда, у музеі, побач з касой... Таксама на памяць...

Пераклаў з рускай Мікола РАКІТНЫ.

# ЗЯМЛЯ, ШТО ПЕСНІ НАВУЧЫЛА

Пухаўшчына. Край шумлівых азёр і імклівых рачулак. Край старажытных паданняў, легенд, апеты ў песнях і казках, праслаўлены ў барацьбе з ворагам і ў мірнай стваральнай працы.

Праз усё сваё жыццё пранёс любоў да пухавіцкай зямлі вялікі беларускі пясняр Якуб Колас.

«Колас не любіў курортаў,—успамінае Міхась Лынькоў.—За ўсё сваё жыццё ён пабываў толькі разы два ці тры ў курортных мясцінах. Кожнае лета ён выязджаў у якую-небудзь вёску, звычайна ў Пухавіцкі раён, бліжэй да лесу, да Свіслачы. Уладжваўся з сям'ёй у сялянскай хаце і праводзіў лета сярод лясоў, палёў і лугоў...

Каму даводзілася да вайны бываць з Коласам ранняй вясной у лесе, той мог назіраць такое відовішча: напаткаўшы на дарозе ўгрэтую сонцам лужыну Канстанцін Міхайлавіч скідаў чаравікі і, падкасаўшы калошыны, тупаў босым па лужыне, толькі пырскі разляталіся ва ўсе бакі. І рабіў ён гэта з такім захапленнем, з такой шчырасцю, што на якую хвіліну, другую здавалася, нібы вы бачыце перад сабой не сталага чалавека, а маленькае хлапчанё, якое бязмежна рада і сонцу, і вясне, і гэтым пырскам вады, якія гараць, пераліваюцца пад сонцам усімі колерамі вясёлкі».

Любоў да свайго краю, улюбёнасць у самабытныя куткі Пухаўшчыны, шчырая павага да яе працаўнікоў знайшлі сваё адлюстраванне ў паэзіі Я. Коласа.

Хараству і прыгажосці Пухаўшчыны, мужнай барацьбе пухаўчан супраць ворагаў, іх поспехам у стваральнай працы прысвечаны вершы паэта: «Загібелька», «Вусце», «Вусцянскі груд», «Над Свіслаччу», «У родных мясцінах», «Зімой у Балачанцы», «На руінах прошласці», «Падбярэжжа», «Дамок на водшыбе», паэма «Адплата».

У чэрвені 1935 года Я. Колас ездзіў у Парыж на Міжнародны кангрэс абароны культуры, дзе выступіў з яркай прамовай аб цяжкім лёсе сваёй радзімы ў мінулым і шчаслівым сёння і заўтра Савецкай Беларусі. Паездка ў Парыж, знаёмства з яго славутасцямі выклікалі ў паэта супярэчлівыя ўражанні. І толькі ў адным—у сыноўняй любві да беларускай зямлі—паэт заставаўся бескампрамісным:

**Калі агледзіш хвайнякі**  
**І гэты кут пазнаеш бліжай,**  
**Збіраючы баравікі,—**  
**То вывад я раблю такі:**  
**Мне Загібелька лепш Парыжа.**  
**(«Загібелька»).**

Праз два гады паэт пацвярджае сваю думку. На гэты раз прыгажосць пухавіцкай зямлі ён супрацьпастаўляе вядомаму курорту ў гарах Шварцвальда ў Паўднёва-Заходняй Германіі—Бадэн-Бадэну.

Пухаўчане любілі і паважалі песняра. Ведалі і прыхільна сустракалі кожны новы яго твор. Паэт ведаў амаль кожнага жыхара вёсак Балачанкі, Балочы, Беразянкі, Блужскага Бору, Падбярэжжа і інш.

Вялікая Айчынная вайна стала суровым выпрабаваннем для беларускага народа. Беларусь-працаўніца стала Беларуссю-партызанкай.

Знаходзячыся далёка ад Беларусі, Якуб Колас уважліва сачыў за барацьбой свайго народа ў тыле ворага. Яго вершы клікалі на барацьбу, дыхалі шчырай верай у хуткую перамогу.

«У цяжкія гады Вялікай Айчыннай вайны,—успамінаў пазней Герой Савецкага Саюза, праслаўлены партызанскі важак бацька Мінай (М. Ф. Шмыроў),—бессмяротныя творы Якуба Коласа, Янкі Купалы натхнялі беларускіх партызан у іх гераічнай барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У закліках, з якімі звяртаўся да беларускага народа Якуб Колас, мы бачылі адлюстраванне волі нашай партыі і павялічвалі свае сілы ў свяшчэннай барацьбе з гітлераўскімі акупантамі».

У канцы 1942 года Я. Колас заканчвае паэму «Суд у лесе», якую прысвячае беларускім партызанам, і задумвае новую паэму. На думку паэта ў аснову яе сюжэта павінна была легчы адплата беларускага народа фашыстам за іх здзекі і забойствы.

У красавіку 1943 года Канстанцін Міхайлавіч пачынае пісаць паэму «Адплата», якая была закончана толькі ў лістападзе 1945 года. Але першапачатковай задуме твора давялося перажыць значныя змены. Прычынай гэтаму сталі падзеі, якія адбыліся ў гэты час на Пухаўшчыне.

У гады вайны любімы коласаўскі кут на Пухаўшчыне—Беразянка і іншыя навакольныя вёскі—стаў арэнай жорсткай партызанскай барацьбы. Каля Беразянкі партызаны перапраўляліся праз Свіслач, ідучы на чыгунку, сустракалі сваіх сувязных. Шаснаццаць яе жыхароў былі ў радах народных мсціўцаў. Астатнія таксама дапамагалі партызанам.

У 1943 годзе фашысты, не здолеўшы перамагчы партызан, вырашылі правесці карную аперацыю супраць мірнага насельніцтва. Яны ўварваліся ў Беразянку, сагналі аднавяскоўцаў у хлеў і падпалілі яго. У агні загінула 39 жыхароў і ўся вёска. У гэты час і нарадзілася ў партызанскім атрадзе вершаваная паэма «Голас з Беразянкі». З партызанскага атрада паэма «Голас з Беразянкі» была адпраўлена Я. Коласу на Вялікую зямлю.

Пад уплывам гэтай паэмы Канстанцін Міхайлавіч змяніў задуму свайго новага твора, наблізіўшы яго да дакументальнай асновы.

Працуючы над паэмай «Адплата», якая, як і іншыя выдатныя творы песняра: «У майскія дні», «Дарогай славы», «Салар», «Родны шлях», «Майму другу». «На захад», «Голас зямлі», напісаныя ў час Вялікай Айчыннай вайны, былі адзначаны Дзяржаўнай прэміяй першай ступені, Канстанцін Міхайлавіч не пакідаў думкі і аб выданні паэмы «Голас з Беразянкі».

Наведаўшы на кароткі час у красавіку 1945 года Мінск, ён пісаў 28 красавіка ў Мар'іна Горку аўтару «Голасу з Беразянкі» Яніне Ігнатаўне Крайнік:

«Дарагая Яніна Ігнатаўна! Атрымаў Вашу паэму аб партызанах, аб муках і пакутах народа, аб Беразянцы. Я перадам яе ў наша беларускае выдавецтва. Буду прасіць, каб яе, сёетое падправіўшы, надрукавалі. Прыехаў я ў Мінск на кароткі час, і сёння збіраюся ехаць у Маскву. У Маскве, у бальніцы, ляжыць цяжка хворая М. Д., мая жонка. Я вельмі трывожуся за яе. Яе хвароба ўтрымлівае мяне там. Душа ж мая і мае мыслі тут.

Калі М. Д. хоць трохі акрыяе, я перавязу яе сюды. Па прыездзе непрыменна наведаюся ў тыя мясціны, якія вы апісваеце і ў якіх людзі зазналі столькі гора.

Прывітанне ўсім вашым родным і ўсім маім знаёмым—прыяцелям. Усяго добрага. Я. Колас».

Смерць жонкі, падрыхтоўка да друку асобага выдання паэмы «Адплата» і зборніка вершаў «Мой дом», у які ўвайшлі, дарэчы, амаль усе вершы паэта, якія прысвечаны Пухаўшчыне, цяжкая хвароба (у 1946 і 1948 гг. Якуб Колас быў на стацыянарным лячэнні), работа над беларускімі народнымі казкамі і паэмай «Рыбакова хата» (1939—1947 гг.), падрыхтоўка да 40-годдзя літаратурнай дзейнасці, дэпутацкія справы, вялікая грамадская дзейнасць ні тады, ні потым не дазволілі паэту прасачыць за падрыхтоўкай да друку паэмы «Голас з Беразянкі». Паэма не ўбачыла свету. Не ўвайшла яна і ў зборнікі партызанскай творчасці, якія выходзілі ў нас у Беларусі і ў цэнтральных выдавецтвах. Тым больш шкада, бо ёй даў станоўчую ацэнку сам Я. Колас.

Абяцанне ж сваё наведаць пасля вяртання ў Беларусь любімыя месцы на Пухаўшчыне паэт стрымаў. Адразу ж пасля прыезду ў Беларусь Я. Колас наведаў Пухаўшчыну.

Беларускі скульптар Заір Азгур успамінае аб гэтым так: «Аднойчы я ехаў з Пухавіч на Бабруйск і сустрэў каля моста цераз рэчку Якуба Коласа. Ён сказаў, што ў гэтай рэчцы Глыбокай ёсць вялікія шчупакі. Бераг быў высокі, круты, рэчка глыбокая. Мне спадабаўся лес і рэчка. Тое маляўнічае месца нагадвала мне родную Віцебшчыну.

Я запытаўся ў Коласа, ці выбраў ён сам гэта месца, дзе я яго сустрэў. Ён адказаў, што ведаў яго яшчэ да вайны. На ўлонні прыроды, працягваў Канстанцін Міхайлавіч, усё нібыта не змянілася, нібыта і не было вайны. Але не так, як у горадзе, дзе вы востра адчуваеце час, падзеі, разбурэнні і будаўніцтва.

— Цудоўныя мясціны тут! Але адно слова, дарагі мастак, што раней на ўсіх гэтых дрэвах на вялікай вышыні паміж сплеценых галін жылі буслы. А цяпер іх няма. І вы ведаеце чаму? Паглядзіце.— І ён паказаў на метраў сорак убок. І ўбачыў пні, што сіратліва тырчалі з зямлі тут і там.

— Так, пні,—пацвердзіў Колас.— Немцы высеклі лес амаль на 200 метраў па абодвух баках дарогі і пакінулі поле, якое не ўзарэш...»

У выніку той паездкі на Пухаўшчыну Якуб Колас напісаў верш «На руінах прошласці», які, як і ўсе папярэднія вершы аб Пухаўшчыне, увайшоў у першы пасляваенны зборнік вершаў «Мой дом».

**Праз пяць гадоў я зноў наведаў Вусце.**  
**Прытулак дум, аграны мой куток.**  
**Дзе высіцца Вусцянскі мой грудок.**  
**І вецер лёгенька гайдаецца на кусце.**  
**Стаю, маўчу, мясціны аглядаю —**  
**Змяніліся, і трудна іх пазнаць.**  
**Дубоў маіх паменшылася раць,**  
**Як і людзей у родным нашым краю.**

Але праз прызму жалю і журбы паэт бачыць новыя жыватворныя сокі:

**Я ведаю — загояцца ўсе раны:**  
**З пажарышч край паўстане, расцвіце**  
**Ва ўсёй сваёй красе і паўкаце. —**  
**Наш верны шлях, ён з праўдай**  
**павянчаны!**

Паэт не памыліўся. Спраўдзіліся яго прадбачлівыя словы. Пухаўшчына залячыла свае раны, нанесеныя вайной.

Калі Мікалаеўшчына спавіла Коласа і выправіла ў творчы шлях, дык аб Пухаўшчыне можна сказаць, што разам з усёй беларускай зямлёй яна навучыла паэта песні. І як шкада, што ў нас пакуль што няма добрай кніжкі аб творчых сувязях Я. Коласа з пухавіцкай зямлёй, аб тых жыватворных соках, якімі паіла яна паэзію беларускага песняра.

**Анатоль ЯРОХІН.**

---

*Вось некалькі строф з паэмы «Голас з Беразянкі», аб якой цёпла адгукнуўся ў свой час Якуб Колас. Яе аўтар, былая партызанка Яніна Ігнатаўна Крайнік, цяпер жыве ў Мінску.*

**З пажаўцелых кустоў ды з халоднай**  
**зямлянкі**  
**Рвецца голас к табе, дарагі наш**  
**пясняр.**  
**Голас тых, хто застаўся жывы**  
**з Беразянкі,**  
**Расказаць, што зрабіў з ёй чужынец-**  
**дзікар.**

**Ты любіў наш куточак: зацішны,**  
**прывабны,**  
**Што над Свіслаччу ветла удаль**  
**паглядаў,**  
**Яго гордасць, красу—лес высокі**  
**і зграбны,**  
**Што так беражна вёску вакол**  
**абнімаў.**

**Той прастор, што ушыр за ракой**  
**адкрываўся,**  
**Луг чароўны з вянкамі купчастых**  
**кустоў,**  
**Дзе Вусценскі грудок велічава**  
**ўзняўся**  
**З балачанскіх пяшчаных сухіх**  
**берагоў.**

. . . . . . . . . . . . . . .

**Мы упэўнены цвёрда ў сваёй**  
**перамозе.**  
**На радзіме замоўкне апошні тыран.**  
**Дык заедзьце, пясняр, вы да нас**  
**па дарозе,**  
**Вам раскажа шчэ больш Беразянскі**  
**курган.**

Снежань 1943 года.

---

КІНО

# НЕЗАГОЙНАЕ

**Гэты фільм глядзець няпроста. Мы бачым у ім і мемарыял на месцы спаленай разам з жыхарамі вёскі, і людзей, якія ўратаваліся ад гібелі, і дакументы, якія перадаюць жудасную карціну фашысцкіх злачынстваў і здзекаў ворага з мірнага насельніцтва. Мы чуем балючы голас Іосіфа Іосіфавіча Камінскага, які цудам уцалеў у той страшны дзень—22 сакавіка 1943 года.**

**Фільм «Боль мой—Хатынь» створаны ў аб'яднанні «Летапіс» кінастудыі «Беларусьфільм» рэжысёрам-сцэнарыстам Пятром Аліфярэнкам, аператарамі Юрыем Іванцовым, Генрыхам Лейбманам, Уладзімірам Пужэвічам і Уладзімірам Цеслюком.**

**Перад намі строгія надмагільныя надпісы—пасямейна, з указаннем узросту кожнага, і жахлівыя лічбы замучаных у канцэнтрацыйных лагерах людзей Беларусі, і фота, на якім гітлераўскі вылюдак страляе з рэвальвера ў патыліцу радавога Эміля Гольца, і... але хопіць.**

Сэрца, не кліч, бо яны не  
пачуюць,  
Ні сёння, ні заўтра—  
іх клікаць дарма!  
Ніколі не прыйдуць і не  
паратуюць  
Мяне ад пакуты—  
бо іх няма!..

**Так, няма. Кожнага чацвёртага страцілі мы ў тую ліхую гадзіну, але кожныя трое выжылі. І мы прыходзім да тых, каго няма сярод нас, і ў думках, і да гэтых халодных гранітных пліт, да гэтых надпісаў. Памяць аб кожным у нашых сэрцах і ў сэрцах нашых дзяцей і ўнукаў. Яна бясконцая...**

**Хатынь стала месцам нашага агульнага смутку, агульнага болю—болю 9200 вёсак, 136 з якіх не адрадзіліся.**

**Мне давялося глядзець у Бухенвальдзе дакументальны фільм, які расказвае пра зверствы фашыстаў у канцэнтрацыйным лагеры. Той фільм—строгая, паслядоўная, страшная канстатацыя фактаў. У ім не ставілася задача нешта аналізаваць—і так усё да жаху ясна. Але гэтая «яснасць»—вынік карпатлівага і стараннага адбору архіўнага матэрыялу. Тое, што паказвае экран, абуджае ў нас і гнеў, і пратэст. І разам з гэтым узнікае непахіснае жаданне—не дапусціць адраджэння фашызму, актыўна змагацца супраць яго, каб ніколі больш не паўтарылася агульначалавечая трагедыя.**

**Усё ясна і ў фільме «Боль мой—Хатынь».**

**І ўсё ж адчуваеш нейкую незадаволенасць работай кінематаграфістаў. Нешта нараджае ў душы двоістасць пачуцця. Чаму? Паступова пачынаеш разумець. Пачынаеш заўважаць і інсцэніроўку дзеяння, і тое, як разыгрываюць ролі людзі, якія менш за ўсё хочуць ды і не ўмеюць рабіць гэтага. І не трэба загадзя ім тлумачыць, куды павярнуць галаву, як нахіліць яе, як тут ступіць, у якой руцэ трымаць фотакартку. Успомнім, напрыклад, як нетактоўна вырашана сцэна (менавіта сцэна!) з Віктарам Жалабковічам, які ўспамінае сваю, забітую карнікамі маці.**

**Канечне, можна спрачацца пра тое, што такое дакумент у дакументальным кіно, мае рэжысёр права дадумваць, уключаць у тканіну дакументальнага фільма ігравыя моманты ці не. У дадзеным выпадку мы гаворым толькі пра меру густу, пра кінематаграфічнае чуццё дакументаліста, пра тое, як ён імкнецца жывое чалавечае пачуццё (канкрэтнага чалавека!) перадаць архіштампам, які ладна прыжыўся ў мастацкім кіно.**

**Фільм «Боль мой—Хатынь» просты па кампазіцыі. Галоўная частка, у якой раскрываецца задума твора, акаймавана малюнкамі пейзажна-вясковага плана. У іх таксама адчуваецца спроба знайсці вобразнае рашэнне тэмы, падрыхтаваць гледача да эмацыянальнага ўспрыняцця ўсяго фільма.**

**Зрэшты, гэта аўтарам удалося—і звонкі сакавіцкі ранак, і паніклыя капяжы на стрэхах, і дзяўчына, што ідзе да калодзежа з вёдрамі, і чорная птушка, якая пралятае над чорным дымным комінам—гэтыя пасобныя штрыхі надаюць карціне трывожны настрой. Мо ўсё гэта было б і добра, каб не адкрыта ілюстрацыйная песня «Крыніцы», якая ў гэты час гучыць за кадрам.**

**Фільм зроблены па традыцыйных законах кінематаграфічнага мантажу. У ім ёсць экспазіцыя, кульмінацыйныя моманты, пабочныя сюжэтныя лініі. І тое, што ён так бездакорна правільна пабудаваны, на маю думку, галоўны пралік фільма. Бо адчуваецца, што аўтары загадзя паставілі перад сабой мэту абавязкова расчуліць залу, любымі сродкамі абудзіць у нашых душах прыглушаны часам боль і горыч...**

**Так, правільна—пад такія бравурныя маршы і рабавалі, і забівалі, і здзекаваліся вырадкі з савецкіх людзей. Так, правільна—такія, поўныя цынізму данясенні пісаў не толькі камандзір роты Мюлер: па ўсёй Беларусі гарэлі вёскі, плакала зямля, але ж было яшчэ і такое, што ў гэтых паўсядзённых памінках паднімала людзей над горам, над болем, і яны бязлітасна помсцілі лютаму ворагу. Гналі яго з залітай крывёю роднай зямлі.**

**Відаць, галоўным чынам, пра гэта і трэба было сказаць у фільме. Сказаць смела і пераканаўча. І тады б мы praніклiся не толькі жалем і смуткам за людзей, якія загінулі, але адчулі б таксама і гордасць за гераічныя подзвігі нашага народа.**

**Віктар ПОЛЯК.**



Джэд Кайлі

# Хэмінгуэй

## УСПАМІНЫ СТАРОГА ТАВАРЫША

## НА КІМ ЗВОНІЦЬ ЗВОН?

Калі мы выйшлі на палубу, акрываўленага плоту, з-за якога столькі акул знайшлі сваю смерць, ужо не было. Мы стаялі на якары ў цудоўнейшай мясціне, якую толькі можна ўявіць, з падветранага боку маленькага атола, накшталт тых, што знаходзяцца ў паўднёвай частцы Ціхага акіяна. Менавіта пра іх вы чыталі ў кніжках. І менавіта ціхай была гэтая мясцінка. Больш ціхага куточка на зямлі нельга, бадай, адшукаць. Вада была гладкая і чыстая, як насаўскае віскі. Мы знаходзіліся зусім непадалёк ад берагу: кінь камень — даляціць. Але нікому і ў галаву не прыйшло б кінуць камень у той востраў, каб не парушыць яго першародны спакой. Гавораць, гэта другі Біміні. Малодшы брат Біміні. Рука чалавека яшчэ не кранялася яго прыроднай красы. Вось бы дзе адпачыць і спакойна выпіць пасля ўсіх пакут, падумаў я.

Мы сядзелі вакол століка на палубе і наталяліся спакоем і цішынёй, накшталт Кучаравага і Бена, што засталіся на сваёй утульнай яхце. Чым не жыццё? Пасля некалькіх глыткоў гаворка перакінулася на акул. Ці асмеляцца яны напасці на плыўца, які не паранены? Высветлілася, што на гэтае пытанне не можа адказаць з упэўненасцю і эксперт.

— Туземцы гавораць, што могуць, — сказаў Хэмінгуэй.

— Я не стаў бы рызыкаваць, — сказаў Флойд Гібанс.

— Я таксама, — згадзіўся капітан.

— А чаму б і не паспрабаваць? — сказаў я.

Я прачытаў процьму кніг, у якіх прыводзілася нямала довадаў «за» і «супраць». І сам бачыў, як туземцы з нажамі ў руках змагаліся з акуламі. Але я заўважыў, што акула ніколі не нападае на чалавека першай. Відаць, баіцца яго.

— Акула труслівая, — працягваў я. — Яна ўцякае ад жывога чалавека. Для таго, каб адагнаць ад сябе акулу, трэба проста пырснуць на яе.

— А калі ты стомішся і ўжо не зможаш пырскацца? — спытаў Эрнест.

— Магчыма, яны і нападуць на чалавека, калі ён занадта доўга знаходзіцца ў вадзе, паранены і ў яго з раны цячэ кроў. Але я, напрыклад, не пабаяўся б даплысці зараз да берагу, калі б гэта трэба было.

Эрнест і Гіб ведалі, што я выдатны плывец. Яшчэ калі я быў падшыванцам, чыкагскі спартыўны клуб уключыў мяне ў склад алімпійскай каманды. І ўсё-такі я зразумеў, што дарэмна ляпнуў тое. Хэмінгуэй спаймаў мяне на слове:

— Стаўлю сотню манет, што не праплывеш да берагу і назад.

Вечна ён ставіць, падумаў я. Да берагу было ўсяго каля пяцідзесяці ярдаў. Глыбіня вады каля яхты — усяго футаў дзесяць. Значыць, палову адлегласці можна будзе прайсці ўброд. Так што, калі на гарызонце паявіцца плаўнік акулы, каб дабрацца да мелкаводдзя мне спатрэбіцца праплыць якіх-небудзь дваццаць пяць ярдаў.

— Згода, — прамовіў я.

Хэмінгуэй збегаў у каюту і вярнуўся, размахваючы стодоларавай паперкай.

— Яна твая, калі вернешся жывым, — сказаў ён, як заўсёды самаўпэўнена.

Хоча мяне запалохаць, падумаў я. Што ж, я табе пакажу. Мы таксама не лыкам шыты. Я паслаў капітана на мосцік. Калі ён заўважыць плаўнікі, дык ударыць у рынду — суднавы звон. Адзінае, што мяне непакоіла, гэта зваротны шлях. Бо з борта яхты ныраць зручней, чым з берагу. Я папрасіў капітана званіць часцей, калі я буду плысці назад. Каб мець магчымасць вярнуцца назад, на бераг, калі ён убачыць акул. Я лічыў, што на глыбокай вадзе, каля яхты, будзе небяспечней.

Калі капітан сказаў, што вакол чыста, я забраўся на мосцік. Бо чым вышэй падымешся, тым далей можна скокнуць. Я прымяніў выпрабаваны прыём хуткасных плыўцоў — плоскі, мелкі нырок. Вынырнуўшы на паверхнасць, я апынуўся на паўдарозе да берагу і пайшоў частым кролем. Цераз некалькі секунд я дакрануўся нагамі да дна. Цяпер дабрацца да берагу—глупства. Калі стаіш на цвёрдай зямлі, не так страшна. Акрамя таго, я лічыў, што акулы не любяць мелкаводдзя.

Я прайшоўся па гарачым пяску і памахаў сваім гледачам. Каб лепш бачыць, яны падняліся на верхні мосцік. Я ні кроплі не баяўся, але вырашыў адразу ж вяртацца, каб не выпрабоўваць свайго шчасця. Зрабіўшы некалькі глыбокіх выдыхаў, я ступіў у ваду. Буду ісці, колькі змагу, а пасля, калі што, ірвану да трапа. А калі пачую звон, дык паспею дабрацца да берагу.

Вада даходзіла мне амаль пад пахі, калі раптам я заўважыў нешта такое, ад чаго па спіне пабеглі мурашкі. Вакол мяне паволі кружыўся доўгі цёмны цень...

Астатняе адбылося ўсё інстынктыўна. Я не стаў удакладняць, што гэта за цень. Ён падаўся мне вельмі знаёмым. Я з усіх ног кінуўся да берагу. І рад быў невыказна, калі выбраўся з вады! Я плюхнуўся на пясок. Сэрца скакала, як прыклад аўтамата. Здавалася, яно вось-вось выскача з грудзей. Каб гэтага не здарылася, я сціснуў зубы.

І тут мой погляд упаў на плот. Так, так, той самы плот, з якім мы палявалі на акул. Ён быў адвязаны і прыткнуўся да берагу. Па спіне маёй зноў пабеглі мурашкі, як і ў той момант, калі я ўгледзеў цень. Мне прыгадалася, як тыя пачвары кідаліся адна на адну. А раптам яны ўсё- такі нападаюць на людзей, падумаў я?

Хай з яхты прышлюць за мной тузік. Што сотня долараў у параўнанні з уласным жыццём? Каб выйграць час, я стаў хадзіць па пяску. Але тут адчуў у назе боль. Я паглядзеў і ўбачыў, што абадраў яе аб нешта, калі пёр да берагу. Толькі гэтага не хапала, падумаў я. Вось яшчэ адна тэлеграма акулам, лезла ў галаву.

Я паглядзеў на яхту. На гэты раз у Хэмінгуэя быў аўтамат у руках. Я зразумеў, што ён будзе страляць, калі заўважыць акулу. І вырашыў як мага хутчэй вяртацца на судна. Я не стану больш ісці, а то яшчэ што-небудзь убачу. Трэба набраць харошы разгон. Таму я разагнаўся, пранёсся па мелкаводдзю так хутка, як мог, і пад вострым вуглом увайшоў у ваду, каб выплыць як мага далей. Вынырнуўшы, я ўбачыў, што да яхты ярдаў дваццаць пяць. Рукой падаць, падумаў я, і пайшоў двайным кролем, не азіраючыся назад. Апусціўшы твар у ваду, я з усіх сіл працаваў рукамі. Я не падымаў твару да тых пор, пакуль не стукнуўся макаўкай у борт яхты. Ніколі не думаў, што мяне гэтак узрадуе гуз на галаве. Моцныя рукі Хэмінгуэя падхапілі мяне і ўсцягнулі наверх. Я памятаў, як умеюць скакаць акулы, і таму ўсё малаціў і малаціў нагамі. Раптам мяне працяў моцны боль. Нагу адкусілі, падумаў я. Але аказалася, што я проста ўдарыўся хворым ногцем аб трап.

У наступнае імгненне я ляжаў, расцягнуўшыся, на палубе, а Хэмінгуэй уліваў мне ў глотку лекі. Ён абліў мяне ўсяго, бо я ўсё яшчэ адбіваўся ад акул. Але неўзабаве я супакоіўся і зразумеў, да чаго ж хораша ляжаць на сонцы і быць цэлым і здаровым. Вылезшы з цёплай вады, я ўсё яшчэ дрыжаў ад страху.

І тут я пачаў злавацца. Што з таго, што ён мяне выцягнуў з вады, думаў я. Гэта ж ён вінаваты, што я ў ёй апынуўся. Нішто сабе прыяцель, які падначвае, гаворачы, што не асмелішся скокнуць у мора, якое кішыць ад акул! Чым больш думаў пра гэта, тым большая злосць ахоплівала.

Я накіраваўся да яго, гатовы сказаць пару «ласкавых» слоў, як раптам адбылося нешта такое, ад чаго я ледзь зноў не плюхнуўся на палубу. Эрнест перамахнуў цераз парэнчы і скокнуў у ваду. Я не верыў сваім вачам. Мяне не зацягнулі б туды і за мільён долараў. Больш таго, кроў тунца, што засохла на ім, пачала растварацца ў вадзе. Дэпешы акулам, падумаў я, прытым тэрміновыя.

А Хэмінгуэй, перапэцканы ў крыві, пырскаўся, цёр плечы і рукі, быццам ён знаходзіўся ў сваёй уласнай ванне. Мой гнеў адразу аціх. Я да смерці перапалохаўся за яго.

— Калаці нагамі, — закрычаў я.

— Навошта? — сказаў ён. І з гэтымі словамі ён раптам перавярнуўся на спіну і ляжаў нерухома, быццам ні разу не бачыў акул-людаедаў.

Я паспрабаваў зразумець учынак яго. Я ведаў, што ён апынуўся за бортам не таму, што спалохаўся мяне. Ён увогуле нікога не баіцца. Толькі не скажыце, што ён не баяўся скакаць у гэтую ваду. Я ведаю, што баяўся. Успомніце, ён лічыў, што акулы нападаюць на чалавека. Гэта я думаў інакш. Выходзіць, яму спатрэбілася больш смеласці, чым мне, калі я нырнуў у ваду. Ці ён быў больш бяздумны? Можа зусім забыўся пра тое, што на ім кроў.

— Вылазь хутчэй! — закрычаў я.

— Лезь і ты сюды, вада цудоўная, — сказаў ён.

Я не думаю таксама, што ён выхваляўся. Магчыма, проста хацеў адчуць тое, што адчуў я, для таго, каб пасля апісаць яго, гэтае адчуванне. А можа ён хацеў пакараць сябе за жарт, які ён учыніў нада мной.

Вы разумееце? Я хачу разабрацца ў ім як ён разбірае іншых людзей.

Ён да смерці напалохаў усіх, хто быў на борце. Гіб крычаў, каб ён перастаў корчыць дурня. Капітан ускочыў на верхні мосцік і абмацваў праз бінокль паверхню мора. Відаць было, што ён страшна занепакоены. Я таксама падняўся на мосцік і схапіў аўтамат. Каб быць напагатове. І добра, што я гэта зрабіў.

Убачыўшы ў мяне аўтамат, Эрнест, дурэючы, падняў уверх рукі. У яго быў такі выгляд, быццам ён баіцца майго аўтамата больш, чым акул. Таму я нацэліўся на яго.

— Не страляй, я сам вылезу, — сказаў ён.

І ён, сапраўды, стаў вылазіць. Паціхеньку, брасам, падплыў да штормтрапа і палез наверх, нібы пасля купання ў плавальным басейне ў Маямі-Біч. Вось гэта вытрымка. Я паспрабаваў памагчы яму і крыкнуў, каб ён пабярог ногі. Але Эрнест адмахнуўся ад мяне, сказаўшы, што акулы, маўляў, абламаюць зубы аб яго металічную каленную чашку.

Калі ён аказаўся на палубе, мы ўсе з палёгкай уздыхнулі. Усе, акрамя туземца. Дзіка закрычаўшы, ён паказаў пальцам уніз. Кроў застыла у мяне ў жылах. Зусім поруч з трапам, дзе толькі што быў Хэмінгуэй, лена кружылі два велізарныя чорныя цені. Дэпешы містэру і місіс Акула былі дастаўлены без затрымкі. Адна з іх была такая ж буйная, якіх мы бачылі да гэтага цэлы дзень. Другая была меншая, але, наколькі я ведаю жаночую натуру, больш небяспечная. Яна ўсплыла, павярнулася на бок і кінула на нас такі пагляд, што я адвярнуўся ад парэнчаў. Якія жахлівыя вочы! Магу пабажыцца, што ў яе цякла слюна. Не кажыце, што ў акул абавязкова павінны быць відны над вадой плаўнікі. У тых, у каго дураслівы настрой, — так. А гэтыя не жартачкі жартаваць прыплылі сюды. Зразумеўшы, пэўна, што свой абед упусцілі, яны зніклі гэтак жа раптоўна, як і паявіліся.

Эрнест палез у кішэнь сваіх шортаў і падаў мне мокрую соценную асігнацыю. Я ўбачыў, як ён уздрыгнуў. Рука яго дрыжала.

— Ты выйграў, — сказаў ён.

— «Пераможца не атрымлівае нічога», — адказаў я. Але грошы ўзяў. Гэты жарт быў проста назвай яго кнігі.

Мы на ўсіх парусах вярталіся на Біміні. Нам з Гібам гэта было як нельга больш дарэчы. Спалучэнне акіяна з Хэмінгуэем аказалася для нас занадта стамляючым. Хутчэй бы дабрацца да нумара ў гасцініцы, падумаў я.

Каля пяці мы дабраліся да Біміні. На канцы пірса вісела нешта такое, што з'явілася для нас змрочным напамінкам пра нашы сённяшнія забаўкі. Гэта былі рэшткі велізарнага тунца, якога нехта спрабаваў прыбуксіраваць да берагу. Ад велізарнай рыбіны засталіся толькі хвост і галава ды чыста абгрызены хрыбетнік. Гэта пастараліся акулы. Калі б не літасць боская, ад нас з Хэмінгуэем засталося б тое ж самае.

Камісія па арганізацыі сустрэчы Папы паведаміла, што яго «Пілар» адрамантаваны і што яму трэба пайсці паглядзець бот. Мы думалі, што ён пойдзе з намі ў бар асвяжыцца. Але ёсць нешта такое, што ён любіць больш, чым бары, — гэта яго судна. Ён штосьці сказаў па-іспанску свайму памочніку кубінцу, і той вынес бутэльку кубінскага рому і некалькі шклянак. Відаць, за час нашай адсутнасці ён паспеў заправіцца. Эрнест прыгатаваў кактэйлі.

— Давайце па адной на дарогу, — сказаў ён.

— На дарогу? — перапытаў я.

— Так, на дарогу.

— Але ж мы нікуды не збіраемся, — запярэчыў Гіб.

—Затое я збіраюся, — сказаў Эрнест.

— Куды? — спытаў я.

— У Іспанію, — сказаў ён.

Застаецца верным сабе, падумаў я. Хоча паглядзець рэвалюцыю зблізку. Відаць, неўзабаве будзем чытаць новыя апавяданні пра бой быкоў. Ён жа нікуды не ездзіць без таго, каб пра гэта не напісаць. Флойд спытаў Эрнеста, ці не падкіне ён яго да Барселоны.

— На сваім боце я дайду толькі да Кубы, — сказаў Хэмінгуэй.

Толькі і ўсяго. Якіх-небудзь трыста міль ад Біміні. Бутэлек дзесяць ходу. І збіраецца адплываць у сваім трыццаціпяціфутавым карыце перад надыходам ночы. Быццам збіраецца перайсці вуліцу. Мы з Гібам пераглянуліся. Памочнік кубінец не прамовіў ні слова. Проста стаў адвязваць швартовыя канцы. Відаць, ён ужо прызвычаіўся да гэтага.

Жыхары вострава, было відно, таксама не былі здзіўлены. Яны не здзіўляліся, што б Папа ні рабіў. Таксама прызвычаіліся. Але было відно, што ім шкада з ім развітвацца. Яны моўчкі назіралі за тым, як ён адплывае. Мы паціснулі Эрнесту руку, пажадалі шчаслівай дарогі і пайшлі ўздоўж прычала.

Калі мы праз гадзіну выйшлі з бара, туземцы ўсё яшчэ не разыходзіліся. Яны глядзелі на мора. Гэта было шчымлівае відовішча. Прыкрыўшы далонёю ад сонца вочы, яны глядзелі ўдалеч. Над іх галовамі вісеў шкілет тунца. А ўнутры рамкі, якую ўтварыла перакладзіна, на якой вісеў тунец, ледзь-ледзь угадваўся бот Эрнеста. Падзорная труба, якую ён трымаў у руцэ, ззяла, нібы расплаўленае золата. Быццам сцэна з арабскіх казак, падумаў я.

Раней, чым мы дабраліся да Нью-Йорка, Хэмінгуэй, як мы даведаліся, быў ужо ў Іспаніі. Вярнуўся ён толькі пасля заканчэння вайны. Іншыя амерыканцы, якія там былі, гаварылі, што бачылі яго рэдка. Затое шмат чулі. Ён насіўся па краіне, нібы воўк-адзінец. Амаль увесь час ён знаходзіўся ў гарах з рэспубліканцамі, жыў у пячорах і назіраў за прадстаўленнем з першых радоў. Іспанцы, якія ведалі яго, гаварылі, што ён мог выпіць велізарную колькасць гэтага жахлівага самаробнага пойла, чым любыя два іспанскія салдаты, разам узятыя.

Праз некалькі гадоў я сустрэўся з ім у Маямі. Мне падалося, ён пахудзеў і пасамотнеў. Ён сказаў, што канчае кнігу пра тое, што бачыў у Іспаніі. Думаеце, ён расказаў, што за кніга? Нічога падобнага. Сказаў , што едзе дадому ў Гавану і пачне новы матч.

— Цікавая сустрэча? — спытаў я.

— Але. У восьмым раздзеле я выйграю накаўтам.

— Спадзяешся прыстойна зарабіць пасля на фільме?

— Разлічваю на чвэрць мільёна, — сказаў ён.

— Кінь гаварыць лухту, — сказаў я. — А якая назва?

— «Па кім звоніць звон».

— Вось як! — адгукнуўся я.

— Падабаецца? — спытаў ён.

— Не.

— Выпіўка за мной, — сказаў ён.

Так яно і сталася. Ён завёў мяне ў невялікі кубінскі кабачок. Падлога была пасыпана пілавіннем. На нагах у Эрнеста былі чаравікі, і гэта бянтэжыла яго. Ён перакуліў пару тузінаў дайкіры і запіў двайным ромам і кока-колай.

Працяг. Пачатак у №№ 27. 28. 30. 31.

— Чаму кола? — спытаў я.

— Яшчэ не снедаў.

— Ах, вось яно што, — сказаў я.

Кельнер прынёс дзве кавы. Мая была напалову разбаўлена малаком. Яго — таксама. Палова — кавы, астатняе — бакардзійскі ром.

— Калі едзеш? — спытаў я.

— Праз пару глыткоў.

— Я цябе праводжу да аэрапорта.

— Не люблю. Паеду параходам.

— Чаму? — здзівіўся я.

— Прадчуваю. Калі-небудзь у самалёце мне будзе капец.

Дык вось дзе ў яго балючае месца. Адзінае на свеце, чаго ён баіцца. Не дзіўна, што пра лётчыкаў ён не напісаў ніводнага апавядання. Дзіўны тып. Але аказваецца — таксама з чалавечымі слабасцямі. Ён яшчэ раз сербануў, падняўся і накіраваўся да дзвярэй.

— Будзем ваяваць? — спытаў я.

— Я — буду, — сказаў Эрнест.

Так яно і выйшла. Неўзабаве пасля таго, як яго кніга «Па кім звоніць звон» была напісана, Амерыка ўступіла ў вайну. Эрнест таксама. Трапіць у дзеючую армii не ўдалося, і ён выправіўся ў якасці ваеннага карэспандэнта. І тут я даведаўся, што ён лятае на баявых самалётах, як заядлы вайсковец. Відаць, давялося адкрыць па ім стральбу, каб загнаць яго ў самалёт.

Я праводзіў яго да парахода. Калі ён ступіў на палубу, рот яго расцягнуўся да вушэй. Любіць ён караблі. Я назіраў за ім з прычала. Звычайна, калі трапляеш на карабель, пачынаеш прыглядацца да пасажыраў. Каб хутчэй падшукаць сабе партнёра. Я заўважыў, што дзве румяныя, нібы персікі, дзяўчыны з захапленнем глядзяць на яго. І ён сам пяшчотна глядзеў на іх. Не, не на іх. На параход. Шырока расставіўшы ногі, ён ўлюбёна разглядваў рангоут і такелаж лайнера.

Зароў гудок. Я заткнуў далонямі вушы. Але не Эрнест. Адкінуўшы назад галаву, ён прыслухоўваўся. Нібыта параход быў дзіцем, якое ляпеча яму штосьці на вуха. Напэўна, ужо скінуў свае чаравікі, каб лепш адчуваць палубу. Ён не памахаў мне. Рукі ў яго былі занятыя: ён абдымаў прыгожы вялікі вентылятар. Іду ў заклад, ён той самы дзівак, які першы даў судну жаночае імя.

Але я, вядома, ведаў, што з гэтым велізарным карытам ён толькі фліртуе. Яно падабалася яму толькі таму, што везла яго да першага кахання — «Пілар». Сапраўды, дзівак! Ён застаецца верны караблям. Ніколі іх не мяняе. «Пілар» ён купіў яшчэ тады, калі адхапіў першы свой вялікі куш. І ён застанецца з ёю да канца. Ён аднaлюб, падумаў я.

Некаторыя даюць сваёй яхце імя жанчыны, якую кахаюць. Хэмінгуэй не такі. Ён жанчыну назваў імем яхты, якую ён любіў. І зрабіў яе персанажам сваёй кнігі «Па кім звоніць звон». Я чытаў першы і апошні раздзелы. Мне спадабаўся гэты амерыканец. Але кніга канчаецца тым, што гэты хлопец ляжыць за дрэвам і цэліцца ў непрыяцельскага афіцэра. Цікава, што сталася пасля з гэтым янкі? Ён, здаецца, быў слаўным хлопцам.

Усю другую сусветную вайну я заставаўся ў Майямі-Біч. Але час ад часу чуў пра Эрнеста. Адзін мой парыжскі сябрук пастаўляў мне звесткі. У час высадкі ў Нармандыі Хэмінгуэй знаходзіўся разам з 4-й дывізіяй. Але калі дывізія ўзяла Рамбуйе, што міль трыццаць ад Парыжа, яна «знайшла» там «генерала» Хэмінгуэя з уласнай арміяй. Ён сабраў салдат, што адсталі ад сваіх часцей, і стварыў партызанскі атрад, які налічваў каля сотні чалавек. Каго толькі ні было ў ім! Французы цывільныя, амерыканцы, «фіфі»*, героі французскага Супраціўлення і нават некалькі немцаў-дэзерціраў.

Хоць выкарыстанне цывільнага насельніцтва было парушэннем Жэнеўскай канвенцыі, стракатае войска Хэмінгуэя даставала для французаў каштоўныя разведдадзеныя. Акрамя таго, наш партызанскі важак ніколі не лічыў вайну прыватнай справай.

Калі французы і амерыканцы вызвалілі Парыж, высветлілася, што атрад Хэмінгуэя ўжо вызваліў бар «Рыц»—логава нацызму. Бойня, гаворaць, была жудасная. У бары не ацалела ніводнага чалавека, ніводнай бутэлькі. Наш партызанскі правадыр павінен быў прадстаць перад ваенна-палявым судом. Але генерал Леклерк выручыў яго. Быў дасягнуты кампраміс. Замест гэтага Хэмінгуэя прадставілі да ўзнагароды. Характэрная заўвага, зробленая ім адносна ўсёй гэтай гісторыі: «У наступны раз выкалю Жэнеўскую канвенцыю ў сябе на задніцы».

Яму шанцавала ў часе вайны. Пару разоў раскалоў сабе чэрап, толькі і ўсяго. Напэўна, ударыўся аб стойку бара. У Францыі яны вышэйшыя, чым нашы.

Мне ў Фларыдзе таксама шанцавала з году ў год. У 44-м ажаніўся, у 45-м развёўся, у 46-м трапіў пад аўтамабіль. Пашкоджанне чарапной каробкі, пераломом нагі, шок. Гаворaць, вадзіцель быў таксама п'яны. Але праз нейкія чатыры-пяць гадоў я зноў стаў на ногі. Стальная шына, якая злучала мой чаравік з галёнкай, была адзіным напамінкам пра гэты выпадак. Я шкадаваў, што побач няма Хэмінгуэя. Хай бы ён паспрабаваў таўкануць мяне босай нагой па такой галёнцы.

Але ўсе гады, пакуль я быў выкінуты з жыцця, я не сустракаў яго. Толькі часам чытаў пра яго ў газетах—у секцыі кіно. Пазнаваў яго хітрыя назвы. Але не мог паглядзець гэтых карцін, нават калі б і атрымаў контрмарку. Прадпісанне ўрача. Галава мая была ўсё яшчэ не ў поўным парадку, і сумныя карціны хвалявалі мяне. Ды, бадай, я не пайшоў бы і ў тым выпадку, калі б галава была здаровая.

Эрнест усё яшчэ ваяваў, калі ў Майямі паказвалі «Па кім звоніць звон». Той самы фільм, які, калі верыць яму, павінен быў прынесці Эрнесту чвэрць мільёна. Колькі ж на самой справе атрымаў ён за час гэтых адборачных спаборніцтваў у Галівудзе?—прыкідваў я.

І тут надарыўся выпадак. Я сустрэў Элізу Робертсан, майго ранейшага галівудскага сакратара. Я спытаў яе наконт «Звона»:

— Колькі ўзяў на ёй Хэмінгуэй?

— «Звон» здалі ў сорак трэцім,—сказала Эліза.— Ён зарабіў на ёй усяго чвэрць мільёна.

— Не можа быць!

* F.F.T. (Forces Fransais de l'interieur).

— Цюцелька ў цюцельку, — пацвердзіла яна. — Дзвесце пяцьдзесят тысяч долараў.

Ого, ён сапраўды прарок, падумаў я. Называе цану раней, чым тавар гатовы. Яму б толькі на конскіх гонках іграць. Выбраць цёмную каняку і, глядзіш, выйграў. Яму б букмекерскі фармуляр ды шпільку, і пісаць не было б патрэбы.

— Спадабалася яму карціна?—спытаў я.

— Ён яе не глядзеў,—адказала Эліза.—Не пайшоў нават на аўтарскі прагляд. Іншыя пісьменнікі чакаюць—не дачакаюцца, пакуль іх карціну пачнуць паказваць, а гэты адмахнуўся. Сказаў, што яркае святло яму вочы рэжа.

— А ў Галівудзе ён усё ж працаваў?

— Не. Адмовіўся ад самага высокага ганарару. Заявіў, што не любіць кіно.

— Вось вар'ят,—сказаў я.

— Як сказаць,—запярэчыла Эліза.—Калі ты любіш кіношнікаў, дык яны не любяць цябе. Галівуд—могілкі для сапраўдных пісьменнікаў.

Хоць на гэтыя могілкі не трапіў, падумаў я, а сказаў іншае:

— А яшчэ чым-небудзь ён пажывіўся ў Галівудзе?

— А няўжо ж! Пасля «Звону» ў яго купілі два старыя апавяданні, якія ён напісаў, калі яшчэ жыў у Парыжы. Атрымаў па пяцьдзесят тысяч за кожнае...

— Чакай..,—перабіў я.—А як яны называліся?

— Першае называлася «Снягі Кіліманджара». Пра Афрыку. Ён выцягнуў яго з кніжкі «Мужчыны без жанчын».

— А як называлася другое?

— «Забойцы».

— Як, як?

— «Забойцы».

Чакай, чакай! Ды гэта ж гангстэрская гісторыя, якую я чытаў у Парыжы. Я яшчэ параіў яму прычапіць галівудскі канец. Цікава, ці паслухаўся ён? Калі паслухаўся, дык мне прыпадае не менш пяці кавалкаў. Зараз высветлім.

— А ты сама бачыла карціну?

— Бачыла. Атрымалася шыкоўна, і потым...

— Не трэба мне разжоўваць. Чым усё скончылася? Забойцы страляюць у шведа, калі ён моліцца?

— Зусім не,—сказала Эліза.—Прыдумана здорава. Канца няма ўвогуле. Швед устаў і стаіць. Гледачы застаюцца ў недаўменні.

— Ах, вось як!

Што вы на гэта скажаце? Пяцьдзесят тысяч за апавяданне без канца. Што ж адбываецца ў Галувідзе? Можа быць, у ім сапраўды ёсць сёе-тое, але як здолелі разгледзець гэта галівудскія паны?

Ва ўсякім выпадку, я быў рады, што ў яго процьма грошай. Тады і мне адколіцца. Зараз прыкінем. Адразу пасля вайны ён загроб чвэрць мільёна. Пасля зарабіў на «Снягах» і іншых апавяданнях. Усяго, атрымліваецца, паўмільёна. Хоць ён кідаецца грашыма направа і налева, як п'яны пісьменнік, усё ж сёе-тое ў яго, пэўна, засталося. Праўда, за апошні час з заробкамі ў яго не густа. Кніжку «За ракой, у цяню дрэў», ці як там яна называецца, лаялі тут усе, каму была ахвота. І грошай яна не прынесла. Можна сказаць, гэта быў тэхнічны накаўт у першым жа раўндзе. Ён становіцца папулярным, скумекаў я.

Я прыкінуў, ці не наведаць мне і павіншаваць старога прыяцеля. Бо столькі ж гадоў не бачыліся. Хіба кепска сустрэць земляка, у якога завяліся грошы? Вельмі ж ужо дарэчы была б мне такая сустрэча. Бальніцы і ўрачы вытраслі з мяне ўсё.

Цяпер падумаем. Паслаць яму тэлеграму ці пазваніць? Не, навошта. Навошта папярэджваць? Лепш зваліцца нечакана. Але як ты на яго звалішся, калі ён сядзіць у сваёй крэпасці? Раптам ён паглядзіць у амбразуру і ўгледзіць цябе? Тады да яго нізавошта не трапіш. Лепш за ўсё застаць яго дзе-небудзь. Калі ён не працуе над кніжкай, дык яго можна знайсці ў гаванскай штаб-кватэры. Вырашана. Накіруюся прама ў бар да Неахайніка-Джо.

Раніцой я ўскочыў у самалёт. Хай ён катаецца на параходах, а мне няма калі. Але калі я дабраўся да Джо, я туды нават не зайшоў. Зразумеў, што Эрнест тут не бывае. Занадта ўжо тут чыста. Я выклікаў таксі. Яго ведаюць усе шафёры. І ведаюць, дзе яго знайсці. Гэты, усміхнуўшыся, павёз мяне з фешэнебельнай, турысцкай часткі горада па вузкіх вулачках квартала, дзе жыло мясцовае насельніцтва. Мы спыніліся перад невялікім кабачком, да якога вяла пасыпаная пілавіннем сцяжынка. Вось гэта на яго падобна! Выйшаўшы з машыны, я зазірнуў у акно. Але нічога не ўбачыў. Бруд з таго боку шкла ляжаў тоўстым слоем. Зайшоў у сярэдзіну. Пасля, калі мае вочы крыху прывыклі да дыму, я ўбачыў...

Гэта быў рослы чалавечына гадоў пяцідзесяці пяці. Ён стаяў ля стойкі, павярнуўшыся да мяне спіной. Чыстай вагі ў ім, пэўна, было дзве з паловай сотні фунтаў. Яму не шкодзіла б падстрыгчыся. Прытым двойчы. Падстрыгчы галаву і падбародак, белыя, як лунь. Калі ён выкінуў сваю буйную кісць, ухапіўшыся за шклянку, я заўважыў на ёй чорную з сівізной поўсць. Нібы мех чарнабуркі на мядзведжай лапе, падумалася мне. Я ведаў, што ў руцэ ў яго павінна быць шклянка. Але далонь яго была такая шырокая, што яе не было відаць.

На ім была стракатая сарочка. Такія носяць мясцовыя рыбакі. Ён апрануў яе поверх штаноў, і ніз яе тапырыўся, нібы апярэнне аэрастата. Яна была настолькі доўгая, што закрывала шорты.

Па манеры трымаць шклянку ў ім можна было адразу прызнаць янкі. Смяротэльная хватка. Тыя яшчэ рукі. І ногі тыя яшчэ. Яны былі абуты ў нешта накшталт тэпцяў з голым вялікім пальцам. Ён сам зрабіў гэтыя вырazы, каб пальцам было свабодна. Да іх прыліпла пілавінне.

Каго ж нагадвае мне гэтая спіна?—падумаў я.—І тут жа ўспомніў: незабыўнага Гарганцюа. Тая ж прасцецкая неахайнасць. Тая ж моц і аднaчасова грацыя. Ён быў вельмі шырокі ў плячах і ў жываце. Рукі звісалі да калень. Я ўлюбёна агледзеў яго з ног да галавы. Магутны корпус пяцітонкі, точаныя, як у стэйнвееўскага раяля, ногі, падумалася мне.

Я падышоў да яго злева. Ён спачатку мяне не заўважыў. Глядзеў у люстэрка. Добра, што яно бруднае, падумаў я. Калі ён убачыць сябе ў ім, дык пачне крышыць усё наваколл. Трэба з ім загаварыць, пакуль не позна. Не губляючы пільнасці, я ціхенька паляпаў яго па руцэ. Мне падалося, што гэта сталёвая бэлька.

— Здарова,—сказаў я.

— Здарова, саранча,—сказаў ён. Так і сказаў.

«Саранча»,— паўтарыў я. Гэта такі лятаючы жук, які ўсё сажрэ і па свеце пусціць. Цікава, адкуль ён даведаўся?

— Што ў цябе за звычка называць людзей саранчой?

— Бачу цябе кожныя сем гадоў.

— Вось яно што!—адказаў я.

— Вып'еш?

Ён не стаў чакаць адказу. Проста сказаў нешта па-іспанску, і кабатчык пачаў гатаваць дзве порцыі. Наліваў з пяці ці з шасці бутэлек. Прыгатаваў, здавалася б, кактэйль, а падаў у піўных куфлях. Я прыгубіў. Паскудства. Нагадвае раствор для бальзаміравання нябожчыкаў, падумаў я.

— Падабаецца?—спытаў ён.

— Вядома!

— Гэта я яго навучыў.

Цяпер усё ясна. Вечна ён вынаходзіць рэцэпты новых напіткаў. Старыя для яго недастаткова моцныя. Напэўна, гэты рэцэпт пераняў у парыжскага суседа-магільшчыка. Моцная штука. Трэба, відаць, не адставаць ад яго. Калі ён церпіць такое пойла, дык чаму я не магу? Я не з тых, хто пакідае сябра ў бядзе. Ён заказаў яшчэ пару порцый.

— Цяпер я плачу,—сказаў я.

— Я ўсіх частую,—адказаў ён.—У мяне тут свой рахунак.

Кепскія справы. Пэўна, здагадаўся, што я без капейкі.

— Чуў, ты адхапіў куш за «Звон»?—сказаў я.

— Які з «вон»?—спытаў ён.

Вы ўсё зразумелі? От ужо хітрун! Умее адшыць! І не думайце, што ён назваў мяне саранчой без усялякай задняй думкі. Гэтыя жукі налятаюць нечакана, накшталт мяне. А пасля кусаюць. Ён ведаў, што я наважваюся кусьнуць яго. Таму і падліваў мне ў куфаль, каб я забыўся пра гэты свой намер. Я чытаў яго, нібыта кнігу. Толькі не адну з тых, што ён сам напісаў. Зрабіўшы выгляд, што я ўсё разумею, я сказаў:

— Я ж не ўчора нарадзіўся.

— Можаш паўтарыць яшчэ раз.

— Што іменна?

— Есці хочаш?

— З чаго ты ўзяў?—спытаў я.—Думаеш, я прыляцеў у гэты кабак, каб папалуднаваць?

— Яшчэ пару,—сказаў Хэмінгуэй.

Усё такі ж гаварлівы, падумаў я. Чорт з табой. Абмацаем другую яго галівудскую кішэню, як гэта робяць зборшчыкі падаткаў.

— Містэр Хэмінгуэй,—прамовіў я,—якую суму заграблі вы за «Зялёныя снягі Афрыкі»?

— Раз ты ўжо загаварыў пра Афрыку... Еду ў Афрыку. Трэба падзарабіць.

— Вось як!

— Заўтра ўпакоўваю рэчы. Паляўнічае апавяданне для часопіса. Атрымаю кучу грошай. Паслязаўтра выпраўляюся.

— Што за паспешлівасць?—сказаў я.—Глядзі, не забудзь лыжы і машынку для стрыжкі газонаў. У Афрыцы спатрэбяцца.

— Не шумі, хлопча. Тут табе не Парыж. Давай, выкладвай, плечы ў мяне шырокія, вытрымаюць.

— Раз ты ўжо загаварыў пра Парыж...

— Хто загаварыў?

— Ты. Ты ж збіраўся стаць чэмпіёнам свету.

— Я ім і стану,—сказаў Эрнест.—Я толькі што правёў свой галоўны матч. Кароткі хук левай па першым паверсе. Ужо ў сумцы. Выйграю накаўтам.

— А што гэта такое? Аповесць ці ўдар як мае быць?

— Проста кода*,—сказаў ён.

— А гэта што яшчэ за звер?—здзівіўся я.

— Гэта эпілог да вялікай кнігі. Накшталт сабачага хваста. Сабаку я выкінуў, а хвост застаўся.

Усё тая ж саманадзейнасць. Трыццаць гадоў пнецца прабіць сцяну, а ўсё яшчэ балбоча пра чэмпіёнскі тытул. Што ж датычыцца сабачага хваста, дык калі хто і здолее яго збыць, дык гэта Эрнест. Усё жыццё гандлюе сабакамі. Гэта гандляр, а не пісьменнік. Разам са сваёй кодай.

— І якая ў цябе будзе назва?

— Званне? Чэмпіён свету. Вып'ем?—адгукнуўся ён.

Ясна, падумаў я. Не хочаш сказаць, што ў цябе за назва. Баішся, што прыйдзецца мне не па гусце. Ну што ж, тады я скажу. Больш ты мяне з глузду не саб'еш.

— Слухай, Хэмінгуэй,—сказаў я.—Хопіць туману. Мне патрэбна тысяча. Хачу дабрацца да Нью-Йорка. А што рабіць з выпіўкай, ты ведаеш. Праглыні сам.

— Чаго ж адразу не сказаў?—сказаў ён.

Паспрабуй, зразумей яго. Я думаў, ён паспрачаецца са мной на сотню долараў, што мне не даплыць да Нью-Йорка. Але ён гэтага не зрабіў. Узяў у бармэна аловак і паперу і нешта накрэмзаў па-іспанску.

Не паспелі мы выпіць чарговай порцыі, як прыбег хлопчык-кубінец. Ён падаў Эрнесту канверт. Эрнест перадаў яго мне. Такія канверты выкарыстоўваюць авіякампаніі. Я раскрыў яго і ледзь не выпусціў шклянкі. Там быў білет на самалёт да Нью-Йорка. Грошай не было.

— Дапівай,—сказаў ён.—Самалёт адлятае праз паўгадзіны. Якраз паспеем. У Майямі высадзішся, забярэш свой багаж. Як заўсёды, падарожнічаеш улегцы?

— Ага,— адказаў я.

— Я таксама. Крэдыт добры, але ў кішэні пуста. Трэба ўкалваць.

Тут ён падпісаў рахунак і вывеў мяне з бара.

На аэрадроме Эрнест схапіў мяне аберуч і павалок па трапу ў самалёт. Пасля папрасіў сцюардэсу прыгатаваць мне чорнай кавы. Усё гэта цудоўна, думаў я, але навошта такая паспешлівасць? Гавана мне падабаецца. Я ж яго не выганяў са свайго начнога клуба ў Парыжы. Вось яшчэ вышыбала!

— Што ж ты мне нават не паказаў свой іспанскі маўзалей?—сказаў я.

Ён пасадзіў мяне ў крэсла і зашпіліў рамень. Мне нельга было нават павярнуцца.

— Гэта проста старадаўні форт. Бывай.

— Спакойнай ночы,—сказаў я.

Заканчэнне ў наступным нумары.

* Кода—заключная частка музычнага твора, якая нярэдка ўяўляе сабой самастойны твор.

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

**ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ**

*Хвацкі анекдот, вострае слоўца, вясёлы жарт былі вернымі спадарожнікамі савецкага салдата на вайне.*

*Аддзелы гумару і сатыры ў франтавых і армейскіх газетах — «Фрыцамор», «Смехамёт», «Беглы агонь», «Прамой наводкай» і г. д. — былі любімымі і папулярнымі на перадавых пазіцыях.*

*Пагартаем жа старонкі ваеннага друку. Успомнім, з чаго смяяліся франтавікі.*

## «УРУЧЫЦЬ ЛЕПШАМУ БАЙЦУ...»

Баец Н-скай часці Рыгор Караванаў атрымаў пасылку. На ёй было напісана: «Дзеючая армія. Уручыць лепшаму байцу».

У скрыньцы чырвонаармеец знайшоў запіску: «Дарагі баец! Хоць я цябе і не ведаю, але я з любоўю пасылаю табе гэты гасцінец. Еш на здароўе!»

Прачытаўшы запіску, подпіс і зваротны адрас, баец дзелавіта паслініў аповак, дастаў паштоўку і напісаў:

«Дарагая Наталля! Хоць ты мяне і не ведаеш, затое я цябе добра ведаю, і гасцінец твой з'еў са смакам. Як жыве наш сынок? Твой муж Рыгор».

## ДАКЛАДНАЕ ЗВАННЕ

— Клейст, Гудэрыян, Рэйхенаў, Ліст! — Усё гэта вяршкі германскага камандавання.

— Так. Але бітыя вяршкі!

## МУДРЭЦ І ФЮРЭР

Фюрэр:— Скажы, мудрэц, чаму рускія пабілі немцаў на Чудскім возеры?

Мудрэц:— Выпадак, гер фюрэр.

Фюрэр:— Ну, а ў 1918 годзе?

Мудрэц: — Няшчасны выпадак, мой фюрэр.

Фюрэр: — А чаму і зараз рускія б'юць нас?

Мудрэц: — Звычка, гер фюрэр.

## ЭКАНОМНЫ ФЕЛЬДФЕБЕЛЬ

— Перад атакай дайце салдатам гарэлкі, фельдфебель.

— Дазвольце, гер обер-лейтэнант выдаць пасля.

— Чаму?

— Вялікая эканомія будзе. Мінулы раз я атрымаў сто порцый, а пасля бою раздаў толькі дзесяць.

## ЗА КАМПАНІЮ

— Чысты арыец не павінен дрыжаць.

— Я і не дрыжу. Гэта зямля дрыжыць, а я за кампанію.

## НОВЫ ЧЫН

— Абавязкова перадайце маё прывітанне капітану Карлу Кірку.

— Прабачце, гер палкоўнік, але Кірк ужо не капітан.

— А хто ж ён цяпер? Няўжо генерал?

— Не. Нябожчык.

## ЦЯГНІК ІДЗЕ НА ЎСХОД

*(Раман у адной частцы без працягу)*

Цягнік крануўся і павёз Ганса Кнопке на Усходні фронт. Фраў Кнопке апошні раз махнула хустачкай і пайшла ў магазін за жалобнай стужкай.



— Нашага обера разарвала на кавалкі—адзін кавалак толькі і знайшоў.

— Цьфу! Навошта ён табе?

— У ім быў кашалёк.

Кандрат КРАПІВА

## ФРЫЦАВЫ ТРАФЕІ

«На Маскву табе маршрут»,—
Інфармуюць Фрыца.
Фрыц сказаў бадзёра: «Гут!
Можна пажывіцца».

Сала, масла, цукар, мёд
Гітлераўца вабяць:
Фрыц—плячысты на жывот
І мастак паграбіць.

Майстар «арганізаваць»
Вопратку, абутак;
А Маскву збіраўся ўзяць
Ён за двое сутак.

Роўнай стужкаю бяжыць
На Маскву дарога.
Па абочынах ляжыць
Мёртвых фрыцаў многа.

Шар парожняй галавы
Фрыц схіляе ніжай:
Недалёка да Масквы,
А да смерці бліжай.

Фрыц штодзень чакаў бяды
І сядзеў у шчэлі,
А фашысцкія рады
Больш і больш радзелі.

Чалавек мо' дваццаць пяць
Засталося з роты...
Фрыц паспеў, аднак, прыдбаць
Ялавыя боты.

Фрыц зрабіў усё, што мог,
І сягоння рана
Сілай здзёр ён боты з ног
На сяле ў Івана.

Ціха крадзецца Іван
да фашыста-ката;
У руцэ яго—наган,
У другой—граната.

Захапіў паветра—ўзмах,
Гром і бліскавіца!..
І застыў на момант жах
У вачах у фрыца.

Колаў стук сярод палёў,
Слуп рухомы дыму:
Едзе фрыц з вайны дамоў,
Едзе на радзіму.

Ён зрабіў усё, што мог:
Боты тут, з сабою.
Не хапае толькі ног:
Ногі... пад Масквою.

1941 г.



— Зноў ваш самалёт рускія падбілі?

— Я адзін, а іх трое.

— Самалётаў?

— Не, рускіх пехацінцаў.



— Пераліванне крыві магло захаваць яму жыццё.

— Так, але доктар палічыў за лепшае захаваць чысціню арыйскай крыві.

## БРАХЛІВАЯ ДУША

Гебельс памірае, душа яго прылятае да дзвярэй рая. Апостал Пётр па чарзе дапытвае ўсіх.

— Колькі разоў у жыцці ты збрахаў? — пытаецца ён у першай душы.

— Адзін раз, — адказвае душа.

— Прайдзі адзін раз ад чысцілішча і назад.

— А ты? — пытаецца апостал у наступнай душы.

— Тры разы.

— Табе давядзецца зрабіць тое ж падарожжа тры разы.

Калі чарга даходзіць да Гебельса, дык той, не чакаючы, пакуль што-небудзь апостал скажа, сам звяртаецца да яго:

— Дарагі Пётр, дазволь мне на хвілінку спусціцца на зямлю і захапіць з сабой матацыкл.

## КАРЫСНЫЯ ХВАРОБЫ

У прыёмны пакой доктара Ганса Вольфа, накульгваючы, заходзіць нямецкі салдат і скардзіцца на хворую нагу.

— Гер доктар, я ледзь хаджу. Не магу вылезці з акопа без дапамогі.

Выправіўшы хворага, доктар напісаў: «Ота Шмюцке, салдат. Вывіх ніжніх суставаў. Хвароба перашкаджае салдату ўцякаць ад рускіх. Паболей бы такіх салдат фюрэру».

— Наступны!

У пакой зайшоў яфрэйтар Фрыц Трыпке. Ён дзіка зароў:

— Гер доктар! Мае рукі! Я не магу спаць ноччу. Я засынаю толькі пад раніцу!

Доктар Ганс Вольф выправіў і гэтага пацыента. А ў кнізе рэгістрацыі хворых запісаў: «Фрыц Трыпке, яфрэйтар. Нязначна апалены рукі. Падняць рук уверх не можа. Такі салдат не здасца ў палон. Акрамя таго, ён не спіць начамі. Гэта вельмі важна, калі прыняць пад увагу шматлікія выпадкі самавольнага сну вартавых на пастах. Яфрэйтара Фрыца Трыпке варта выкарыстоўваць як назіральніка».

— Наступны!

## ПРЫКЛАДНЫ ШКОЛЬНІК

Настаўнік (звяртаючыся да вучня): — Скажы, Фрыц, якім чынам табе ўдалося запомніць так многа назваў савецкіх гарадоў?

Фрыц: — Вельмі проста, пан настаўнік. У Пскове загінуў мой старэйшы брат. Пад Смаленскам прапаў без вестці другі брат. У Палтаве рускія забілі майго дваюраднага брата Эміля. Каля Днепрапятроўска трапіў у палон мой дзядзька Карл. Пад Арлом партызаны цяжка паранілі майго дзеда, якога прызначылі несці каравульную службу. А ў Ростове-на Доне разарвала гранатай майго бацьку.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

Выходзіць па пятніцах.

Друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856. АТ 22165.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адназнага сакратара—33-44 04, аддзела літаратуры—33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі—33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры—33-21-53, выдавецтва—32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісы не вяртаюцца.

Галоўны рэдактар Л. Я. ПРОКША.

Рэдакцыйная калегія: З. І. АЗГУР, В. М. АЛАДАЎ, А. Ц. БАЖКО (намеснік галоўнага рэдактара), Б. І. БУР'ЯН, А. І. БУТАКОЎ, А. С. ГРАЧАНІКАЎ, К. Л. ГУБАРЭВІЧ, І. М. ДАБРАЛЮБАЎ, В. У. ІВАШЫН, А. С. КАЗЛОЎСКІ, П. М. МАКАЛЬ, У. Л. МЕХАЎ (адказны сакратар), Р. К. САБАЛЕНКА, І. А. САНЬКОВА, М. Г. ТКАЧОЎ, Ю. М. ЧУРКО, Р. Р. ШЫРМА.